№6-8
(219-221)
2017г.
чэрвень – жнівень

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Краязнаўчая газета
Выдаецца са жніўня 1996 г.
Кошт свабодны

*Рэдакцыя газеты “Гоман Барысаўшчыны” віншуе сваіх чытачоў з* ***225-годдзем надання Барысаву поўнага магдэбургскага права і герба.*** *Нагадаем, што адбылося гэта 14 чэрвня 1792 года.*

## Горадабудаўніцтва Барысава ў 20-х гадах XX стагоддзя – адна з амаль забытых старонак гісторыі тутэйшага дойлідства

*Найбольш поўна архітэктурная спадчына таго перыяду захавалася па вуліцы Арджанікідзэ. Яна можа шмат што распавесці пра першыя крокі ў горадабудаўніцтве Барысава ў перыяд савецкай улады.*



*Пра гісторыю вуліцы Арджанікідзэ і яе архітэктурную спадчыну чытайце на старонках* **6-7**











# Ноч музеяў

*Акцыі пад такой назвай праходзілі па ўсім свеце і былі прысвечаны Сусветнаму дню музеяў, які адзначаецца 18 траўня. Не апынуўся ў баку ад гэтага і Барысаўскі дзяржаўны аб'яднаны музей, які правёў “Ноч музеяў” 20 траўня з 16 да 20 гадзін.*

Пры ўваходзе на тэрыторыю музея наведвальнікі атрымлівалі ад супрацоўнікаў спецыяльную ўлётку (па-англійску “флаер”) пад назвай “Незвычайная гісторыя звычайных рэчаў”, з якой ўваходзілі ў музей і траплялі на інтэрактыўныя пляцоўкі. Пляцовак было шэсць (па колькасці музейных залаў): Бівак 1812, Гандлёвая лаўка Арона Шульмана, Казначэйства пачатку XX стагоддзя, Выстава-рэтраспекцыя “Па вулачках Барысава”, Школа каліграфіі “Ад Аза да Іжыцы” і “У гасцях ў Агаф'і Траўніцы”. На пляцоўках ў адпаведнасці з іх назвамі праводзіліся цікавыя віктарыны, дзе людзі адказвалі на пытанні, а таксама з дапамогай супрацоўнікаў траплялі ў мінулае і знаёміліся з музейнымі экспанатамі, а старыннае фотаатэлье “Дэкаданс” прапаноўвала зрабіць памятную фатаграфію, прымерыўшы галаўны ўбор, які спадабаўся. У віктарынах удзельнічалі і дарослыя, і дзеці. Пасля падарожжа па ўсіх залах наведвальнікі прымалі ўдзел ў бяспройгрышнай латарэі, а таксама пакідалі свае нумары тэлефонаў для ўдзелу ў выніковай латарэі.





З пачатку акцыі на ганку музея адбываўся канцэрт, арганізаваны Лядзішчанскім цэнтрам культуры, а прыкладна з 17.30 на тэрыторыі перад музеем пачалася танцавальна-гістарычная праграма (гістарычныя і народныя танцы), якую праводзіла івенттаварыства “Барысаўская мыза”. Танцам акампанавалі добрыя музыкі з горада Бярэзіно. На тэрыторыі перад музеем дзейнічаў і “Горад майстроў”, дзе можна было набыць сувеніры ручной работы, і фотазона вайсковай тэматыкі, дзе можна было сфатаграфавацца з уніфармістамі часоў Вялікай Айчыннай вайны на фоне гаўбіцы Першай сусветнай вайны, дывізінай гарматы Д44, 1946 года і кулямёта “Максім”, а таксама пачуць расповед пра ўзбраенне. У выніковай латарэі, якая адбылася ў канцы акцыі, былі разыграны тры каштоўныя прызы: “Поўная энцыклапедыя ордэнаў, медалёў, знакаў СССР і Германіі Другой сусветнай вайны” і сувеніры, якія пад апладысменты былі ўручаны пераможцам. Фінансавую дапамогу ў правядзенні “Ночы музеяў” Барысаўскаму дзяржаўнаму аб'яднанаму музею аказаў Барысаўскі завод “Металіст”. Музей наведала нямала людзей. Прыемна, што людзі цікавяцца гісторыяй.

***Сяргей Іваннікаў***

***Фота прадстаўлены Барысаўскім аб'яднаным музеем***

# Ад нумара да нумара

***Дзень Перамогі***

*Урачыстыя мерапрыемствы, якія прысвечаны дню Перамогі, на Барысаўшчыне распачаліся 5 траўня. У гэты дзень у вёсцы Макаўе ля помніка тым, хто загінуў у баях з фашысцкімі захопнікамі, прайшоў мітынг. У гэты ж дзень у Палацы культуры імя М.Горкага прайшоў урачысты вечар "Пераможны травень".*

* * *

*6 траўня ў Барысаве ля воінскіх пахаванняў на могілках па вуліцы Заслонава, ля помнікаў Люсі Чалоўскай, Паўлу Раку і ля абеліска ахвярам фашызму па вуліцы 50 год БССР прайшлі мітынгі, былі ўскладзены кветкі.*

* * *

*9 мая пасля шэсця (сумешчанага з рэспубліканскай акцыяй "Беларусь памятае") ля вечнага агню ля помніка ахвярам фашызму быў праведзены мітынг і ўскладанне кветак. На Цэнтральнай плошчы была прадстаўлена ваенная тэхніка, адбыліся паказальныя выступленні атрада спецназа. У розных частак горада (ля Палаца культуры, у Пячах, Лядзішчах, у мікрараёне "Экран" былі прадстаўлены канцэртныя праграмы. Ля Палаца культуры і ў гарадскім парку працаваў выязны гандаль.*

***Конкурс***

*7 траўня на базе Раённага цэнтра народнай творчасці прайшоў конкурс "Вясковая прыгажуня-2017". Тытул "Міс Артыстызм" атрымала Дзіяна Жуковіч са Старабарысава, тытул "Міс абаянне" – Антаніна Гатоўка з Зембіна, тытул "Міс Арыгінальнасць" Крысціна Свірская з Аздзяцічаў, "Міс талент" стала Аліна Шчуцкая з Вяляцічаў. Яго пераможцай была прызнана Анастасія Грамыка з вёскі Старая Мётча. "Другой Віцэ-Міcс – стала Ганна Беланоўская з Ганцавічаў, "Першай Віцэ-Міcс" – Валерыя Канчадзэ з Лошніцы.*

***Мотапрабег***

*12 траўня па ініцыятыве рэспубліканскага камітэта Беларускага прафесіянальнага саюза працаўнікоў дзяржаўных і іншых устаноў быў праведзены мотапрабег "Шляхі памяці – 2017". Распачаўся ён у Менску, прайшоў праз Курган Славы і мемарыяльны комплекс "Хатынь". Завершыўся ён ля абеліска ахвярам фашызму ў Барысаве. У мотапрабегу прынялі ўдзел 25 мотааматараў з Менска і Барысава.*

***Знаходка***

*14 траўня на полі ля вёскі Вялікая Ухалода ў час сельскагаспадарчых прац была знойдзена 82-міліметровая мінамётная міна часоў Другой сусветнай вайны. Ваеннаслужачыя сапёрна-піратэхнічнай службы, якія былі выкліканы на месца здарэння, яе знішчылі.*

*На жаль, падобныя знаходкі на Барысаўшчыне не з'яўляюцца рэдкасцю і сустракаюцца практычна штомесяц.*

***Семінар***

*20 траўня ў Барысаўскім доследным лясгасе прайшоў рэспубліканскі семінар-практыкум "Сучасныя тэхналогіі пры правядзенні высечкі і догляду з выкарыстоўваннем шматаперацыйнай тэхнікі "Vimek". У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства лясной гаспадаркі, Белгіпралеса, галоўныя ляснічыя і галоўныя механікі* лясгасаў усіх абласцей Беларусі.

***Апошні званок***

*30 траўня на Барысаўшчыне, як і паўсюдна ў Беларусі, у школах прагучаў апошні званок. Сёлета ў нашым краі ён гучаў для 1621 дзевяцікласніка і 1022 выпускнікоў 11-х класаў.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# "Вясёлкавая краіна. Запрашаем у казку"

*Выстава графікі "Вясёлкавая краіна. Запрашаем у казку" лаўрэата прэміі Васіля Віткі Аксаны Аракчэевай адкрылася ў галерэі "З'ява". Як і большасць другіх мерапрыемстваў гэтага года, яна прысвячаецца 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.*

Аксана Аракчэева нарадзілася ў сям'і мастака, скончыла Менскае мастацкае вучылішча (1982 г.), Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1988 г.). Працуе ў станковай, а таксама ў кніжнай графіцы, жывапісе (пейзажы, партрэты, нацюрморты). У якасці ілюстратара супрацоўнічае з выдавецтвамі "Беларусь", "Вышэйшая школа", "Мастацкая літаратура", "Азбукварык", "Пачатковая школа", "Адукацыя і выхаванне", з часопісамі "Пралеска", "Кважды-Ква", "Родная прырода", "Алеся", "Рюкзачок", "Вясёлка". Праілюстравала звыш 50 кніг для дзяцей.

Актыўна выстаўляецца: праведзена больш за 30 персанальных выстаў у Беларусі і замежжы. Удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных выстаў.

Яе творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Менску, літаратурным музеі Максіма Багдановіча, мастацкіх галерэях Полацка, Крупак, Баранавічаў, а таксама ў галерэях і прыватных калекцыях многіх замежных краін.



У экспазіцыі прадстаўлены розныя перыяды шляху творцы ад 1992 па 2017 гады. На адкрыцці выставы прысутнічалі супрацоўнікі бібліятэкі, вучні 3-й гімназіі, былы Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Чэшскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Іржы Карас, землякі з Крупак, мастак Павел Масленікаў.

Аксана распавяла пра сваю сям'ю, вучобу, захапленне літаратурай, творчасць, супрацоўніцтва з часопісамі, выдавецтвамі. Прыемна адзначыць, што рабіла гэта яна на роднай мове.

Дзеці не толькі з вялікай зацікаўленасцю слухалі яе аповед, але і задавалі розныя пытанні аб сакрэтах яе творчасці.

Пра іх даўняе знаёмства і супрацоўніцтва гаварыў Іржы Карас.

У галерэі была наладжана выстава кніг, часопісаў, якія ілюстравала Аксана Аракчэева.

За некаторымі момантамі яе творчага працэсу можна было назіраць з відэапрэзентацыі.

***Іван Белы***

# Унікальная калекцыя

*Адкрываючы выставу фалерыстыкі ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І.Х.Каладзеева яе супрацоўніца Людміла Ціхановіч адзначыла: "Футбол сёння – гэта не толькі ўсенародна любімая гульня, каманды, ігракі, турніры, перамогі, паражэнні... Гэта, у прыватнасці, яшчэ і людзі, якія калекцыяніруюць спартыўную атрыбутыку: білеты, вымпелы, значкі...*

Аднаго з іх, Міхаіла Сляпуху, яна прадставіла як чалавека разнастайных зацікаўленняў: уніфарміста, члена клуба ваенна-гістарычнай рэканструкцыі "Віцебскі пяхотны полк", заўзятара клуба БАТЭ, калекцыянера.

Уладар калекцыі (а гэта 900 значкоў) Міхаіл Сляпуха распавёў пра тое, як ён збіраў значкі, прысвечаныя клубу БАТЭ з эмблемамі і лагатыпамі за розныя гады, значкі з партрэтамі футбалістаў каманды, матчавыя значкі і значкі, якія адлюстроўваюць дасягненні клуба.

Па словах калекцыянера, работа па зборы значкоў – справа, якая патрабуе пастаяннай увагі да дзейнасці любімай каманды і, разам з тым, каштуе немалых фінансавых выдаткаў. Але гэта яго не спыняе. Усяго ім сабрана каля 1100 значкоў. Выстаўлена 900, бо для ўсіх не хапіла месца.

Некаторыя наведвальнікі выставы не шкадавалі слоў падзякі і захаплення ад сабранай калекцыі. Некаторыя, у якіх гэта найбольш поўна выражана, прыводзім ніжэй. "Жадаю, каб калекцыя Міхаіла Сляпухі станавілася ўсё большай, каб БАТЭ заваёўваў усё болей медалёў і тытулаў. Усім поспеху!".

"Дзякуючы ФК БАТЭ, які нас аб'яднаў сваімі поспехамі ў чэмпіянаце Беларусі і ўдзелам у Еўракубках, нам пашчасціла трапіць у казку. Дзякуй Міхаілу Сляпуху, які за гэтыя гады сабраў велізарную калекцыю значкоў. На яе глядзім і ўспамінаем перамогі, радасці, расчараванні.

Хай гэтая казка працягваецца!"

***Іван Белы***

# З любоўю да кнігі

*Адкрываючы выставу экслібрысаў Міколы Рыжага "З любоўю да кнігі", мастацтвазнаўца Таццяна Кірылава адзначыла: "Гэта выстава – своеасаблівы кампраміс. Мікола хацеў спачатку выставіцца ў Менску, а потым у Барысаве. Планавалася прэзентаваць яго альбом. На жаль, гэтага пакуль не ўдалося".*

Дырэктар аб'яднанага музея Наталля Раховіч расказала, што многія работы мастака яны набылі для сябе, некаторыя ён падараваў. Дадала: "Ён быў нашым сябрам, афарміцелем некаторых экспазіцый музея. Мы вельмі любілі гэтага сонечнага чалавека."




"Я добра ведала Міколу, была на ўсіх яго выставах, сустракалася з ім на вуліцах горада, – падзялілася сваімі думкамі Таццяна Антропава. – Ён мужна трымаўся, змагаўся з хваробай. Яго творы – своеасаблівая візітоўка нашай Радзімы. Змалку любіў кнігі (асабліва з малюнкамі), якія з горада ў яго родную Уцеху прывозіла мама. Пад іх уражаннем самому захацелася стаць мастаком. Маляваў пры святле газавай лямпы на газетах, лістках паперы. Ад сям'і, ад роднай зямлі ён узяў самае лепшае. Апошні раз бачылася з ім на выставе фатаграфіі "Родны кут". Ён пакінуў аб сябе добрую памяць".

Мастак Станіслаў Баяранка адзначыў, што Мікола Рыжы быў простым, сціплым чалавекам, ніколі не падкрэсліваў сваю выключнасць. Яго заўчасны зыход – вялікая трагедыя для нас. Прапанаваў у будучым годзе арганізаваць больш маштабную выставу яго творчасці. Ён таго заслугоўвае.

Сваімі ўражаннямі, роздумамі падзяліўся Анатоль Свідрыцкі: "Мікола – буйная постаць. Яго творчасць поўніцца яго глыбокай асобай, яна чакае глыбокага, уніклівалага даследавання. З усёй яго разнастайнай творчасці мяне найбольш уразіла на першы погляд просценькая карціна пра яго родную вёску. Нават не магу патлумачыць, чаму. Нашы адносіны развіваліся. Я шкадую, што Мікола так рана ад нас пайшоў."

"Я ганаруся тым, што Мікола быў на адкрыцці маёй выставы "Родны кут" 2 сакавіка. Нішто не прадвяшчала трагічнай развязкі. На жаль, 30 сакавіка (апошні дзень выставы) яго не стала. Мы былі знаёмы больш 30 гадоў, сябравалі сем'ямі. Ён умеў рабіць усё (і не толькі ў творчасці). Ён быў сапраўдным беларусам. Яго ўсе паважалі. Яго зыход – катастрофа," – распавяла Валянціна Цвірко.

Сын мастака Мікола, расхваляваўшыся, ледзь стрымліваючы слёзы, прамовіў коратка, але галоўнае: "Я яго моцна любіў".

Пад рубрыкай "Успаміны аб Майстры" дэманстраваліся фатаграфіі, якія ўзнавілі светлы вобраз мастака.

У экспазіцыю ўвайшлі 38 кніжных знакаў. Выстава працавала па 30 траўня.

***Іван Белы***

# З жыцця ЯГА "Святло Мяноры"

По прапанове Ізраільскага культурнага цэнтра пры Пасольстве дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь 2 траўня дэлегацыя нашай абшчыны прыняла ўдзел у імпрэзе 69 гадавіны Незалежнасці Дзяржавы Ізраіль, якая праходзіла ў канцэртнай зале "Верхні горад" у Менску. Мерапрыемства адкрылі амбасадар Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Алон Шогам і Старшыня Звяза яўрэйскіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын Уладзімір Чарніцкі. Затым духавы аркестр і салісты горада Гомеля на чале з мастацкім кіраўніком і дырыжорам Максімам Рассохай прадставілі сваю канцэртную праграму "Ізраіль Шалом", у якой прагучала мноства вядомых яўрэйскіх мелодый.

* * *

У траўні завяршаецца вучэбны год у гуртках выхаднага дня нашага аб'яднання. Па традыцыі, якая існуе ў нас, хлопцы, дзяўчаты і іх бацькі здзяйсняюць аўтобусную экскурсію па яўрэйскіх месцах Барысаўшчыны. Не парушылі гэтую традыцыю мы і сёлета. Спачатку мы пабывалі на яўрэйскім могільніку, размешчаным у старой частцы горада, дзе завершаны працы па афармленні сімвалічнай братэрскай магілы і памятнага знака, што прысвечаны светлай памяці аб 700-х яўрэях-барысаўцах, якія пайшлі на фронт і загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Затым, падчас паездкі, у якой прынялі ўдзел больш 30 чалавек, мы наведалі месцы расстрэлу вязняў Барысаўскага і Зембінскага гета, дзе ўсклалі вянкі ў памяць аб тых, хто бязвінна загінуў у гады Вялікай Айчынай вайны. Завяршалі мы сваю паездку на Брылёўскім полі, дзе падвялі вынікі навучальнага года. Пасля гэтага ў рамках супрацоўніцтва з міжнароднай жаночай арганізацыяй "Праект Кешэр" мы правялі мерапрыемства пад назвам "Здаровая вясна, шчаслівае лета". Хлопцы, дзяўчаты і іх бацькі пачулі пра тое, як важна берагчы сваё здароўе, весці правільны лад жыцця, адмовіцца ад шкодных звычак, збалансавана сілкавацца і займацца фізкультурай. Раіса Багалюбава азнаёміла прысутных з гісторыяй і традыцыямі надыходзячага свята Лаг ба Омер, правяла шэраг спартовых спаборніцтваў, у якіх з задавальненнем прынялі ўдзел дарослыя і дзеці. Пераможцы атрымалі прызы.

Пасля падмацунку ўсё трохі стомленыя, але задаволеныя вярталіся дадому. Такое мерапрыемства – заўсёды знакавая падзея ў жыцці нашага аб'яднання, якое з нецярпеннем чакаюць увесь год.

* * *



*У час экскурсіі па яўрэйскіх месцах Барысаўшчыны.*

9 Траўня – Дзень Перамогі. Напярэдадні гэтага свята мы наведалі ўдзельнікаў баявых дзеянняў, якія ўнеслі ўклад у гэтую Перамогу ў гады Вялікай Айчынай вайны, якія стаяць на ўліку ў нашым аб'яднанні і ўручылі ім сціплыя падарункі.

* * *

Мы працягваем супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі нашага горада. 28 траўня ў рамках супрацоўніцтва з ДУК "Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя І.Х.Каладзеева" ў асветніцкім праекце "Нам не жыць адзін без аднаго" для членаў нашага аб'яднання лектар Галіна Глебава прачытала лекцыю на тэму "Чатыры пакаленні мастакоў Піссарра". Лекцыя суправаджалася відэашэрагам маляўнічых прац гэтых мастакоў. Лекцыі Галіны Глебавай пра яўрэйскіх мастакоў заўсёды змястоўныя, выклікаюць непадробную цікавасць у слухачоў і дазваляюць успрымаць прапанаваны матэрыял у поўным аб'ёме.

***Міхаіл Перац,***
***старшыня ЯГА "Святло Мяноры"***








*У час правядзення фестывалю "Фальклорная талака".*

# "Фальклорная талака – 2017"

*21 траўня ў гістарычным цэнтры Барысава на плошчы ля Васкрсенскага сабора прайшоў абласны фестываль фальклорнага мастацтва "Фальклорная талака". Яго арганізатарамі з'яўляліся галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Менскага аблвыканкама, Менскі абласны цэнтр народнай творчасці і Барысаўскі райвыканкам.*

У фестывалі прынялі ўдзел 28 калектываў, каля 400 удзельнікаў з розных куткоў Меншчыны. Акрамя выступлення калектываў, на галоўнай сцэне ля былога кінатэатра Перамога (зараз гэта "Раённы цэнтр народнай творчасці") працавала малая пляцоўка, дзе калектывы-ўдзельнікі фестывалю давалі майстар-класы жадаючым навучыцца танцаваць народныя бытавыя танцы, а ў яго будынку прайшоў III абласны конкурс бытавога танца "Менская кадрыля". У ім прыняло ўдзел каля 60 танцавальных пар ва ўзросце ад 8 да 80 гадоў. Яны змагаліся ў шасці ўзроставых групах і прадставілі 13 традыцыйных танцаў: "Кракавяк", "Война", "Мікіта", "Падыспан", "Полька-бабачка", "Карапет", "Каханачка", "Сямёнаўна", "Лявоніха" і іншыя.

Барысаўшчыну на фестывалі прадстаўлялі фальклорны гурт "Мядоцкая талака" і ўзорны фальклорны гурт "Весялінка" Мётчанскага сельскага Дома культуры (кіраўнік Л.Кажэўка), Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь фальклорны гурт "Берагіня" ДУА "Мётчанскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад-сярэдняя школа Барысаўскага раёна" (кіраўнік М.Козенка, музычны кіраўнік-акампаніятар А.Абрамовіч), аўтэнтычны фальклорны гурт "Суседкі" з Нова-Янчынскага Дома фальклору (кіраўнік Р.Анікеева, акампаніятар В.Анікееў), народны фальклорны ансамбль "Лаўнічанка" (кіраўнік А.Мельнік, акампаніятар М.Сіўчык).



Прадстаўнікі Барысаўшчыны годна выступілі на фестывалі. У самай малодшай узроставай групе сярод танцавальных пар ад 8 да 10 гадоў перамаглі Кацярына Раджабава і Аляксей Кавальчук, трэцяе месца дасталася пары Вікторыя Касцюкевіч-Мікіта Касцюковіч. Сярод падлеткаў ва ўзросце ад 13 да 16 гадоў усе прызавыя месцы былі ў прадстаўнікоў нашага краю. Першай была пара Таццяна Абрамовіч-Сяргей Мацюшонак, другой – Анастасія Грамыка і Павел Літвін, трэцімі – Аляксандра Гірына і Аляксей Патапаў. Сярод моладзі 17–25 гадоў Марыя Коскіна і Яўген Шчэрба былі другімі. Сярод дарослых ад 26 да 40 гадоў барысаўцы таксама былі другімі – Алена Касцюкевіч і Андрэй Шышко. У старэйшай групе Раіса Анікеева і Соф'я Жук з Барысаўскага раёна былі трэцімі.



Сярод калектываў прадстаўнікі нашага раёна былі таксама практычна ва ўсіх намінацыях. Гран-пры конкурсу бытавога танца "Менская кадрыль" атрымаў заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь фальклорны гурт "Берагіня". Першае месца сярод калектываў у намінацыі "за мастацтва вядзення карагоду" атрымалі ўзорны фальклорны гурт "Весялінка" і фальклорны гурт "Мядоцкая талака". У намінацыі, якая прысвячалася традыцыйным рэгіянальным танцам як унікальным маркерам мясцовай адметнасці, трэцяе месца атрымаў фальклорны гурт "Суседкі".

Адначасова з правядзеннем конкурсных праграм свае работы прадстаўлялі майстры народнай творчасці. Любы жадаючы меў магчымасць іх набыць.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# ДАІ пра неабходнасць акцыі "Пачні сезон без парушэнняў!"

*З 28 красавіка па 6 траўня ДАІ аб'явіла аб правядзенні азначанай акцыі.*

Матывацыя наступная. З пачатку года па вобласці адбылося 200 дарожна-транспартных здарэнняў. 36 чалавек загінула, 229 атрымалі траўмы. У 11 ДТЗ павінныя кіроўцы транспарту, якія знаходзіліся ў стане ап'янення. Праверкі паказалі, што адным з асноўных фактараў дарожных здарэнняў з'яўляецца адсутнасць правоў у матацыклістаў, перавышэнне хуткасці, кіраванне транспартам у стане ап'янення. Кіроўцы двухкалёсных машын здзейснілі 12 ДТЗ, у якіх 13 чалавек атрымалі траўмы. На сумленні матацыклістаў 10 ДТЗ.

А яшчэ паведамляецца, што з пачатку 2017 года па вобласці 8 ДТЗ здзейснена з удзелам непаўналетніх, 12 дзяцей атрымалі раненні.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# Аўтарскае права: праблема маёмасных і немаёмасных праў

*Закон "Аб аўтарскім праве і сумежных правах" у Рэспубліцы Беларусь быў прыняты 16 траўня ў 1996 годзе. Але ў 2011 годзе ў яго ўнесены пэўны шэраг змен. Зараз Закон "Аб АП і сумежных правах" дзейнічае ад 17 траўня 2011 года.*

Шмат праблем і пытанняў узнікае пры друкаванні твора, яго распаўсюджванні, таксама паўстае пытанне ганарараў. У сувязі з гэтым узнікаюць пытанні на конт маёмасных (заробак) і немаёмасных (імя, аўтарства) праў. Таму давайце разбяромся, у чым іх адрозненне.

Асабістыя немаёмасныя правы дзейнічаюць на працягу ўсяго жыцця аўтара, пасля яго смерці яны ахоўваюцца спецыяльнымі органамі. Да асабістых немаёмасных праў адносяць права аўтарства, права на імя, на недатыкальнасць твора, на абнародаванне і на водгук. Самае галоўнае! Немаёмасныя правы ні ў якім разе, ні пры якіх абставінах не перадаюцца іншым асобам. Уся інфармацыя змешчана ў артыкуле 15 Закона аб аўтарскім праве і сумежных правах.

Маёмасныя правы не звязаны непасрэдна з чалавекам. Узнікаюць не толькі ў аўтара твора, але і ў іншай асобы (напрыклад, у выдаўца). Маёмасныя правы таксама могуць перадавацца іншым асобам, згодна з дагаворам, цалкам або часткова. Дадзеныя правы з'яўляюцца спадчынай, таму могуць перадавацца, пасля смерці аўтара, яго спадкаемцам.

Згодна з новым Законам (ад 17 траўня 2011 года), у маёмасныя правы ўключаюць выключнае права на твор і іншыя маёмасныя правы. Выключнае права на твор азначае, што аўтар ці іншы праваўладальнік маюць правы выкарыстоўваць твор па сваім меркаванні, у любой форме і любым чынам. Таксама аўтар ці іншы праваўладальнік можа забараніць або дазволіць выкарыстоўваць свой твор іншым асобам. Падрабязная інфармацыя змешчана ў артыкуле 16 Закона аб аўтарскім праве і сумежных правах.

Таксама ў Законе "Аб АП і сумежных правах" існуе шэраг артыкулаў, у якіх прапісана, каму належыць твор, якія меры абароны ёсць і г.д. Прадставім іх вашай увазе. Артыкулы: 10 "Аўтарскае права на вытворчыя творы", 11 "Аўтарскае права на састаўны твор", 12 "Аўтарскае права на аўдыёвізуальны твор", 13 "Аўтарскае права на камп'ютарную праграму", 14 "Аўтарскае права на базу дадзеных", 17 "Аўтарскае права на службовы твор".

У кожнага чалавека ёсць свае правы, але не заўсёды іх можна абараніць. Асабліва калі не ведаеш Законаў. У наш час даволі шмат было і праходзіць судоў, дзе вырашаюць пытанне аб аўтарстве. Здаецца, што такога тут можа быць? Напісаў твор, аднёс рэдактару, потым выдаўцам і ўсё ў парадку. Але гэта толькі падаецца, што ўсё так проста. Таму, перш чым напісаць і аддаць свой твор у выдавецтва, азнаёмцеся з усімі, якімі магчыма, правамі, законамі і артыкуламі.

***Настасся Капцава***

# Цэнтр "РостОК" чакае дзяцей

*17 траўня ў Цэнтральнай раённай бібліятэцы імя І.Х.Каладзеева быў адкрыты Дзіцячы інтэрактыўны цэнтр адукацыі і баўлення вольнага часу.*

Перад дзецьмі і іх бацькамі з уступным словам звярнулася метадыст Святлана Шчэрба: "Мы рады вітаць вас на нашай інтэрактыўнай пляцоўцы, прысвечанай адкрыццю Дзіцячага цэнтра адукацыі і баўлення вольнага часу "РостОК". Усе любяць адпачываць. Сённяшні свет, цудоўны і захапляльны, дае мноства магчымасцей для адпачынку. Змястоўны і правільна арганізаваны, ён адыгрывае асобую ролю ў развіцці і станаўленні асобы дзіцяці. Назапашаныя веды і вопыт работы з дзецьмі ў нашай бібліятэцы леглі ў аснову канцэпцыі стварэння гэтага цэнтра – паказаць вам, нашы юныя карыстальнікі, і вам, паважаныя бацькі, наколькі цікавым, разнастайным і карысным можа стаць правільна арганізаваны вольны час."

З кароткім словам вітання да прысутных звярнулася дырэктар бібліятэкі Алена Капыток.

Затым госці мелі магчымасць пазнаёміцца з тэматычнымі лабараторыямі і зонамі адпачынку цэнтра.

Са зместам лабараторыі Свет дэталей, якая ахоплівае такія вобласці ведаў, як канструяванне, электроніку, робататэхніку і прасцейшае праграмаванне, пазнаёмілі валанцёры – дзевяцікласнікі беларускамоўнай гімназіі №2 і СШ №7.

Майстар-клас па стварэнні арыгінальных прадметаў пры дапамозе 3D-ручкі ў лабараторыі тэхнікі і творчасці правяла супрацоўніца бібліятэкі Анастасія Новік.

Яшчэ адным модулем адукацыйнай часткі цэнтра з'яўляецца лабараторыя вывучэння англійскай мовы. Супрацоўніца бібліятэкі Вольга Голалобава распавяла пра інтуітыўна-практычны падыход у вывучэнні замежных моў дзецьмі ва ўзросце ад трох гадоў да іх паступлення ў школу.

Затым госці наведалі лабараторыю "Board games!", у якой сабраны настольныя гульні для наведвальнікаў любых узростаў, зацікаўленасцяў. Тут можна арганізаваць гульні на любы густ: камандныя, рэалістычныя, з элементамі фэнтэзі, стратэгічныя, інтэлектуальныя...

Ва ўтульнай і светлай зале "РостОК" (Цэнтр месціцца на другім паверсе бібліятэкі) будуць ладзіцца пастаноўкі лялечнага тэатра "Церамок". У дзень прэзентацыі станоўчыя эмоцыі і эстэтычнае задавальненне госці атрымалі ад прагляду фрагментаў спектакляў "Церамок" і "Вандроўны чамаданчык".

У лабараторыі "Мяккае чытанне" будуць чытаць добрыя, цікавыя кнігі, абмяркоўваць іх змест, абменьвацца



ўражаннямі. Назва лабараторыі тлумачыцца тым, што сустрэчы будуць праходзіць у добразычлівай атмасферы на мяккіх канапах і пуфіках.

Нарэшце апошнім пунктам прэзентацыі стала лабараторыя "Шчаслівы час", у якой створаны ўсе ўмовы для аматараў маляваць і расфарбоўваць. Іх тут чакаюць цікавыя часопісы, незвычайныя кнігі, расфарбоўкі...

Не забыты і дзеці з асаблівасцямі развіцця. У цэнтры створаны куток "Асаблівае дзіця". У ім сабрана спецыяльнае абсталяванне, якое дапамагае чытаць такім дзецям: ПК з узмацняльнай гукавой картай, калонкі, навушнікі, электронныя лупы, веб-камера, вялікі фонд CD-дыскаў.

Цэнтр "РостОК" прадастаўляе свабодны доступ да розных пазнавальна-развіваючых інтэрнэт-рэсурсаў.

Цэнтр – гэта месца, дзе рады дзецям, якія ў спакойнай абстаноўцы ў гульнявой форме змогуць атрымаць самыя розныя веды, карысныя навыкі, цікавы вопыт камунікацыі і ўзаемадзеяння.

***Іван Белы***


Пачатак лета. Бярэзіна ля вёскі Пескі.

# У гэта цяжка паверыць...

*Якіх толькі нечаканасцей і дзівосаў не дарыць нам прырода. Так, напрыклад, сёлета раніцай 11 траўня нечакана выпаў снег. У спякотныя дні канца траўня паверыць у рэальнасць таго, што адбылося, досыць цяжка.*

Прычым гэта былі не асобныя сняжынкі, якія імгненна раставалі, а ішоў самы сапраўдны снег. Ён на нейкі час цалкам пакрыў зялёныя лісты і галіны дрэў і раслін.

Безумоўна, доўга снег праляжаць не змог. Тыя, хто любяць зранку паспаць, магчыма, яго не засталі наогул. Тыя ж, хто яго бачыў, былі нямала здзіўлены нечаканым паваротам прыроды. Здымак, які вы бачыце, быў зроблены ў Барысаве раніцай 11 траўня.

***Антось Гурскі***



# Гэта страшная жывёліна – кот

*Цяжка знайсці чалавека, які неабыякава ставіцца да катоў. Здаецца, што гэтыя жывёліна створаны, каб цешыць вока і душу чалавека.*

Але не варта забываць пра тое, што каты – драпежныя жывёліны і могуць нанесці немалую шкоду птушкам. Каты ў наваколлях свайго месца "жыхарства" вынішчаюць птушак пакрысе, але непазбежна ставяць іх на мяжу знікнення. Паводле даследавання, апублікаванага ў часопісе Proceedings of the National Academy of Sciences (PNAS), у ЗША згодна каты штогод знішчаюць ад 1.4 да 3.7 млрд птушак. Іх роля прызнаная рашаючай у знікненні 63 відаў хрыбетных жывёл, у тым ліку 40 відаў птушак!

Дзеля памяншэння негатыўных наступстваў, якія наносяцца прыродзе гэтымі "пяшчотнымі" жывёлінамі, грамадскае таварыства "Ахова птушак Бацькаўшчыны" праводзіць акцыю "Катызваночкі". Яно заклікае ўладальнікаў катоў і котак павесіць на свайго гадаванца, які гуляе на двары, званочак. Так птушкі паспеюць схавацца ад пагрозы. Дарэчы, ад бадзяжных жывёлаў пакутуе і птушка 2017 года – жаўруксмяцюх, гняздо якой знаходзіцца на зямлі.

***Паводле матэрыялаў ГА "АПБ"***

# Так было... *(відавочцы ўспамінаюць Вялікую Айчынную вайну)*

*Мы працягваем друкаваць успаміны Яўгенія Людвігавіча Марцінкевіча 1933 года нараджэння, які ў даваенны час пражываў у горадзе Барысаве ў доме па вуліцы 8-а Сакавіка. Іх пачатак чытайце ў №2-5(215-218) за 2017 год.*

Мама працавала ў вайсковым гарадку Печы ў майстэрні па рамонце нямецкага абмундзіравання. Ірванае, нярэдка скрываўленае, адзенне мылі, чысцілі, цыравалі і іншае. Мама на швейнай машынцы рабіла абметку палявых пілотак. Шэф са спачуваннем ставіўся да жанчын, якія ў яго працавалі. Ён часта адпускаў маму з працы, і таму яна магла рабіць паходы ў вёску.

Недалёка ад нас, у яўрэйскім доме па вуліцы 8-а Сакавіка (другі ад вуліцы М.Горкага), жыла сям'я ўцекачоў са Смаленска. Старэйшы сын служыў у гестапа. Паводзіў сябе абуральна нахабна. Аднойчы нейкі стары не саступіў яму дарогу, і гестапавец стаў збіваць пажылога чалавека. У гэты момант па вуліцы ішла група нямецкіх салдатаў. Яны заступіліся за старога. Гестапавец прыняўся па-руску гарлапаніць на салдатаў, сцвярджаючы, што ён супрацоўнік гестапа. Але на немцаў яго лаянка падзейнічала накшталт раздражняльніка, і яны прыняліся біць яго. Відавочна, шэраговыя салдаты вермахта таксама варожа ставіліся да гестапаўцаў. Невядома, чым скончылася б збіванне, калі б за здрадніка не заступіліся нашы суседкі. Пасля гэтага выпадку гестапавец змяніўся, стаў вітацца з суседзямі. І яго малодшы брат узростам трохі старэй мяне перастаў выходзіць са двара. Раней ён часта далучаўся да нас, частаваў цукеркамі і печывам, спяваў рэвалюцыйныя песні, заводзіў гутаркі пра партызан і падпольшчыкў. Карацей, быў відавочны правакатар. Мы дзяліліся між сабой інфармацыяй пра падзеі, але ніколі не казалі пра партызан і падпольшчыкаў. Ведалі, што падобныя гутаркі нясуць сур'ёзныя наступствы.

У Печах падпольшчыкі ладзілі савецкім ваеннапалонным уцёкі. На волі апынуліся больш за 100 чалавек. Раззброілі варту, узялі зброю і боепрыпасы. Гэты выпадак падштрухнуў гестапа правесці арышты падазраваных у арганізацыі ўцёкаў. У прыватнасці, была схопленая маміна сяброўка-памочніца. З гэтай маладой жанчынай мама пазнаёмілася ў раддоме яшчэ да вайны. Яны вельмі прывязаліся адна да адной. Мама ставілася да яе як да сястры. Падпольшчыкі мелі сваіх людзей у гестапа і зладзілі мамчынай сяброўцы ўцёкі. Аднак яна адмовілася збегчы, бо ў гестапаўскіх засценках знаходзілася яе дзіця. Падпольшчыкі мелі падрабязную інфармацыю пра кожнага з членаў падполля і ім было вядома пра сяброўства гэтай жанчыны з маёй мамай. Таму яны звярнуліся да Анфісы Мікалаеўны за дапамогай, каб яна пагаварыла са сваёй сяброўкай. Мама не з'яўлялася падпольшчыцай, але добра ведала пра смяротную небяспеку, якую ўтойвала ў сабе гэтая сустрэча. Тым не менш мама пайшла на спатканне з арыштаванай сяброўкай, узяўшы з сабой і мяне. Па шляху папярэдзіла: "Яўген, калі што, то адразу ўцякай". Мне стала ўсё зразумела. І вось мы дайшлі. У руках я трымаў вузельчык з жаночымі рэчамі. Калі паліцыянт зняў замок і адкрыў дзверы, мама жэстам падклікала мяне. Убачанае – шакавала. На падлозе камеры ляжала скрываўленая, знявечаная да непазнавальнасці жанчына, якую я бачыў раней прыгожай, бадзёрай, вясёлай, жыццярадаснай. Нават сёння не магу без уздрыгу і слёз успамінаць яе страшэнныя стогны. Мама перакапала сяброўку збегчы. Як цяпер памятаю мамчыны словы: "Такі лёс. Няма нашага Эдзіка, ён памёр. Не было каму аказаць дзіцяці дапамогу. І лёс твайго дзіцяці ўжо прадвызначаны. Застанешся тут, цябе павесяць. Невядома, што стане з дзіцём. Лепш табе збегчы". Гутарка падзейнічала, і жанчына здзейсніла ўцёкі. Пазней яна ваявала ў партызанскім атрадзе. Пасля вайны неаднаразова наведвала нас. На жаль, імя гэтай мужнай жанчыны забылася за даўнасцю гадоў.

З лета 1942-а ў Барысаве запрацавалі заводы і фабрыкі. З'явілася электрычнасць. Жыхароў горада абавязалі працаваць. Мой бацька таксама пайшоў на родны шклозавод, дзе раней працаваў механікам. Аднак прадпрыемства бяздзейнічала, бо ніхто не мог запусціць вытворчы працэс. Тату выклікаў да сабе шэф завода (ім быў немец сталага веку). Ён сказаў яму, што, па словах працоўных, вытворчасць можа запусціць толькі Марцінкевіч. Немец казаў, што шклозавод не мае ніякага ваеннага значэння, а ўвесці прадпрыемства ў дзеянне лічыць справай гонару. Таму ён папрасіў Людвіга Антонавіча дапамагчы наладзіць вытворчасць. Тата падумаў і... пагадзіўся. Запусціць завод азначала не проста даць працу людзям, а зарплату і паёк, гэта значыць, сродкі да існавання. За гэтую паслугу немец аддзякаваў майму бацьку з лішкам. Таго-сяго ў горадзе вельмі хвалявала, што па Барысаве вольна ходзіць "чырвоны дырэктар". Па даносах тату неаднаразова арыштоўвалі. І кожны раз шэф шклозавода выручаў Людвіга Антонавіча. Справа ў тым, што ў старэнькага немца сыны былі любімцамі Герынга – знакамітыя паветраныя асы, вядомыя ўсёй Германіі. Ні адзін высокапастаўлены нямецкі вайсковец не мог запярэчыць гэтаму старому, асцерагаючыся наклікаць на сябе гнеў усемагутнага рэйхсмаршала.

У акупацыю адкрыліся школы. Наша размяшчалася ў драўляным будынку па вуліцы 8-а Сакавіка (насупраць цяперашняга тэлецэнтра "Скіф"). Да вайны там знаходзілася яўрэйская школа. Паліцыя хадзіла па хатах, прымушаючы бацькоў адпраўляць сваіх дзяцей у школу. Праўда, шмат хто праігнараваў загад. Не пайшлі ў школу Толя і Лёня Фомкіны, трое дзяцей Кутневічаў, дзеці Тартышавых і Станкевічаў, Ігар Тарасевіч. Наведвалі школу Яўген Бараноўскі, Алік Максімовіч, дзяўчынкі Слабуха, Жуковіч і я. Кожнаму вучню выдалі грыфельную дошку з алоўкамі і падручнік – вялікую памерам, маляўніча ілюстраваную кнігу. На карце была намаляваная вялікая Германія, куды ўваходзіла Польшча, Беларусь, Украіна і Прыбалтыка. З гэтай кнігі я даведаўся, што Германія змагаецца за стварэнне новага, справядлівага свету. Я ж адвяргаў "новы парадак", а ў душы абураўся цынізмам і хлуснёй фашыстаў. Заняткі мяне не цікавілі. Я часта іх прагульваў, сыходзячы з Фрыдзіхам на рынак падзарабіць трохі грошай. Наведваў заняткі датуль, пакуль у школу не прыехалі нямецкія медыкі. Будынак ачапілі, і ўсіх вучняў падвергнулі медыцынскаму абследаванню. Для чаго? У дзяцей пачалі браць кроў для сваіх параненых салдатаў. Наша настаўніца Ірына Андрэеўна казала дзецям: "Не бойцеся, гэта не страшна". Але я бачыў аднакласнікаў, якія гублялі прытомнасць. Столькі крыві высмоктвалі з дзяцей гэтыя каты! Я адразу сцяміў, што трэба неадкладна збегчы. Папрасіўся ў туалет, і мяне выпусцілі. Туалет, пазбіваны з дошак, стаяў на вуліцы. Некаторыя дошкі прагнілі. Рассунуўшы іх, выбраўся на вуліцу, затым паціху паўзком дабраўся да прыватных дамоў і ўцёк. Пасля гэтага выпадку я перастаў наведваць школу. Так скончылася мая адукацыя ў немцаў. Ва ўсіх гарадскіх школах бралі ў дзяцей кроў ці не, не ведаю. Але там, дзе мы вучыліся, – так было. Праіснавала наша школа нядоўга.

Нямецкія ўлады стварылі ў Барысаве школу Саюза беларускай моладзі. Юнакам і дзяўчынам, якія запісваліся ў яе, выдавалі форму і добра кармілі. Кожны дзень вучні гэтай школы займаліся страявой падрыхтоўкай на гарадскім стадыёне, вучылі і спявалі нямецкія песні. Сярод нашых суседзяў у школу запісаўся, памятаю, Алесь Максімовіч. Скажу, што сям'я Максімовічаў была лаяльна настроена да немцаў. Бацька прыходзіў з працы дадому разам з нямецкімі вайскоўцамі, і яны п'янствавалі. Застоллі здараліся ледзь не штодня. Я ведаю пра гэта таму, што сябраваў з малодшым сынам Максімовічаў – Алікам. Яго маці заахвочвала наша сяброўства, бо я не паліў, не мацюкаўся, не краў. Алік жа наадварот, валодаў усімі пералічанымі якасцямі. У дадатак быў гультаяваты, непаслухмяны і тупаваты. Я дапамагаў Аліку рабіць урокі. Вось брат яго Алесь быў вельмі здольным. У чэрвені 1944-а немцы эвакуіравалі школу СБМ у Германію. Частка вучняў паехала, уключаючы Алеся. Пасля вайны ён вярнуўся ў Барысаў, дзе з адзнакай скончыў 10 класаў школы №11. У пасляваенны час паступіў у інстытут у Маскве і больш у наш горад не вярнуўся. Не прыехаў нават на пахаванне сваіх бацькоў. Памятаецца, на запясці Алеся быў тушшу выбіты нумар, які Максімовіч ніяк не мог выдаліць.

Размяшчэнне нямецкіх воінскіх частак мяне не цікавіла. Ведаю, што адна воінская частка знаходзілася ў школе №6, а таксама ў доме, дзе кафэ "Прывал". Да гэтага будынка былі прыбудаваны гаражы, якія выходзілі на вуліцу Ленінскую і Пушкіна. Пасля вайны ў гаражы па вуліцы Пушкіна дзейнічаў адзіны на ўвесь Барысаў кінатэатр, пакуль не пабудавалі кінатэатр "Радзіма".

У 1943 годзе акупацыйныя ўлады прыняліся ўмацоўваць Барысаў. Усё дарослае насельніцтва прымусілі капаць акопы і будаваць умацаванні. На ўзвышшах вуліц Ленінская, 8-а Сакавіка і 1-а Мая былі выкапаны траншэі, збудаваны трывалыя бліндажы і доты. Аналагічную абарончую сістэму збудавалі на месцы сучаснага мясакамбіната і ад чыгункі да аўтамагістралі. На тэрыторыі ад нафтабазы да чыгункі былі пабудаваны склады. Велізарныя склады боепрыпасаў знаходзіліся ў лесе, пачынаючы ад аўтамагістралі да палігона. Гэтыя пабудовы заблакавалі нам выхад у лес па грыбы і ягады. Магутныя зенітныя батарэі стаялі поруч мастоў праз Бярэзіну. У школе №6 усё вокны заклалі падвойнымі бярвеннямі. Прастору паміж імі засыпалі зямлёй, зрабілі амбразуры. Ад уваходу ў школу (з боку вуліцы Чырванасцяжнай) ішла траншэя да дота. Агнявая кропка знаходзілася амаль у цэнтры перакрыжавання вуліц Ленінскай і Чырванасцяжнай. Праз амбразуры дота можна было весткі агонь ва ўсё чатыры бакі. Насупраць школы стаяў будынак, абнесены высокім шчыльным плотам. Там, дзе сёння гандлёвы цэнтр "Еўраопт" па вуліцы Чырванасцяжнай, пасля вызвалення горада мы выявілі велізарны катлаван памерам 30 на 40 метраў і глыбінёй больш 10 метраў. Сцены будынка пачалі бетанаваць, але завяршыць працу не паспелі. Памятаю, таўшчыня бетонных сцен даходзіла да аднаго метра, а металічная арматура была не меней двух сантыметраў таўшчынёй. Катлаван неўзабаве засыпалі, каб дасціпныя дзеці не пакалечыліся.

***(Працяг будзе)***

***Падрыхтаваў да друку Аляксандр Балябін,***
*гісторык-археограф ДУК "Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя І.Х.Каладзеева"*

# Што мы ведаем пра барысаўскіх курсантаў?

*Час існавання Барысаўскага танкавага вучылішча аказаўся кароткім. Яно было створана загадам наркама абароны 14 лютага 1941 года шляхам пераўтварэння кавалерыйскага вучылішча, якое размяшчалася ў ваенным гарадку Печы. А 3 ліпеня 1941 года быў падпісаны загад пра вывад вучылішча з баёў і пераўтварэнне яго ў 3-е Саратаўскае танкавае вучылішча. Вывад курсантаў з фронту пачаўся праз тыдзень, калі курсанцкія падраздзяленні ў абарончых баях дайшлі да Оршы.*



*П.Катасонаў. А.Мельнікаў. С.Бондараў. М.Каралёў. С.Крахмалаў. Б.Сапуноў. М.Хізроеў (зверху), Б.Янчуркін (справа). А.Лізюкоў (зверху), І.Сусайкоў (злева). Ф.Рудскі. Р.Каданаў. М.Капыцін.*

Каратка заслугі вучылішча выкладзеныя на мануменце, які ўстаноўлены ў наваколлях Барысава па накірунку на Зембін:

"1 ліпеня 1941 года курсанты Барысаўскага танкавага вучылішча пад камандаваннем карпуснога камісара Сусайкова І.З. вялі ўпартыя баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі пры абароне горада Барысава і раёна на мяжы р.Бярэзіна".

Пра гэтыя баі маецца нямала публікацый, заснаваных на архіўных дакументах і расповедах удзельнікаў бітваў.

Дрэнна ўзброеныя і яшчэ не навучаныя курсанты падбілі паўтара дзясятка танкаў і знішчылі да роты суперніка.

У часопісе "Наука и жизнь" № 7 за 2006 год кандыдат філасофскіх навук Б.Платонаў называе імёны воінаў, прадстаўленых да ўзнагарод:

"– сяржант А.М.Галавачанскі. Год нараджэння 1918. Закідаў суперніка гранатамі і ўступіў у рукапашную сутычку. Захапіў двух палонных і ручны кулямёт;

– сяржант П.С.Дзегцяроў (1918), курсант К.І.Чурумаў (1915). Пад шчыльным агнём зліквідавалі паломку затвора 122-мм гарматы, трапнымі стрэламі падбілі тры танкі;

*Помнік курсантам.*

– курсант М.С.Емяльянаў (1913). Ля мястэчка Зембін трапным агнём знішчыў танк і бронемашыну ворага. Быў цяжка паранены, але бой не спыніў;

– малодшы лейтэнант В.І.Казюлін (1912). З узводам станковых кулямётаў адбіў напад шматкратна пераўзыходзячага суперніка. Граматна арганізаваў сістэму агню, прапусціў танкі наперад, адрэзаўшы ад іх роты мотапяхоты, і знішчыў яе..."

Далей ідзе спіс з 26 прозвішчаў тых, хто быў прадстаўлены да ўзнагарод, галоўным чынам, да медаля "За адвагу", але памочніка начальніка вучылішча па тэхнічнай частцы маёра Г.М.Трэйціна (нарадзіўся ў 1893-м) чамусьці прапаноўвалася ўганараваць ордэнам "Знак Пашаны", хоць гэтая ўзнагарода, паводле статуту, за вайсковыя подзвігі не прызначаная.

У беларускай газеце "Во славу Родины" ад 22 чэрвеня 2016 года палкоўнік запасу Мікалай Макарэвіч напісаў: "... за абарону Барысава начальнік танкавага вучылішча І.З.Сусайкоў і камісар вучылішча П.?А.?-Міхееў былі ўзнагароджаныя ордэнамі Чырвонага Сцяга. Дзясяткі курсантаў і афіцэраў таксама былі ўганараваны высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі". Паміж тым, па маіх звестках, з 40 узнагародных лістоў, падпісаных начальнікам вучылішча І.З.Сусайковым, толькі адзін апынуўся выніковым – начальнік штаба Барысаўскага гарнізона палкоўнік А.І.Лізюкоў прадстаўляўся да ордэна Чырвонага Сцяга, а быў уганараваны званнем Героя Савецкага Саюза. У архіўнай базе ўзнагароджанняў я знайшоў яшчэ двух курсантаў, якія праявілі мужнасць пры абароне Барысава. Сын палкоўніка А.І.Лізюкова Юры (прадстаўлены 3-м Саратаўскім танкавым вучылішчам) узнагароджаны медалём "За адвагу", і Васіль Ключко (прадстаўлены адным з ваенкаматаў Арменіі) узнагароджаны медалём "За баявыя заслугі». Ён быў цяжка паранены пры змаганні з варожым дэсантам, які высадзіўся на паўночнай ускраіне Барысава ля яўрэйскіх могілак.

Вучылішча страціла ў баях забітымі і зніклымі без весткі 192 чалавекі. Якія іх прозвішчы? Пошукі далі мне толькі некалькі прозвішчаў: Слюсар, Ціханенка, Бірукоў, Моцек, Петрашко, Ішчанка, Чахоеў. Звесткі пра пахаванні забітых знайсці не атрымалася.

Застаецца невядомым і лёс большасці параненых, лік якіх склаў 68. Быў паранены і начальнік вучэльні І.З.Сусайкоў, які змог вярнуцца ў строй толькі ў 1942 годзе.

Я адшукаў некаторыя разрозненыя звесткі пра некалькіх былых курсантаў Барысаўскага танкавага вучылішча, якія прымалі ўдзел у абароне Барысаўшчыны і перажылі вайну.

Сцяпан Маркавіч Бондараў нарадзіўся ў 1923 годзе ў сяле Леніна Гомельскай вобласці, але і Барысаў заняў у яго ваеннай біяграфіі прыкметнае месца. Ён вучыўся ў Барысаўскім танкавым вучылішчы, камандаваў там аддзяленнем і ў чэрвеньскія дні 1941 года ўдзельнічаў у цяжкіх абарончых баях на берагах Бярэзіны. А ў чэрвені 1944 года ён зноў вярнуўся ў гэтыя краі, але ўжо вызваліцелем – камандзірам роты 3-й гвардзейскай танкавай брыгады. Пасля вайны воін-пераможца скончыў Ваенную акадэмію бранетанкавых войскаў і займаў высокія камандныя пасты. Звольніўся ў запас у 1984 годзе ў званні генерал-лейтэнанта.

Рыгор Цімафеевіч Каданаў, які нарадзіўся ў 1916 годзе ў сяле Грыднева Дарагобужскага раёна Смаленскай вобласці, – курсант 4 роты першага батальёна Барысаўскага танкавага вучылішча, удзельнік абарончых баёў на Бярэзіне ў 1941-м. У пасляваенны перыяд – кадравы вайсковец, палкоўнік. Яго партрэт і ўспаміны захоўваюцца ў Барысаўскім краязнаўчым музеі.

Герой Савецкага Саюза танкіст Міхаіл Васільевіч Капыцін (1920-1986) родам з горада Мурама, але яго ваеннае жыццё неад'емнае і ад Барысава. Тут ён вучыўся ў танкавым вучылішчы, тут яго застала вайна. На мяжы чэрвеня-ліпеня 1941 года ў асяроддзі курсантаў на берагах Бярэзіны мужна адбіваў напады пераўзыходзячых сіл суперніка (Залатую Зорку атрымаў у 1944 годзе за подзвіг пры вызваленні Польшчы).

Выхадзец сяла Чашчына Тамбоўскай вобласці аграном Пётр Сямёнавіч Катасонаў з'явіўся на свет у 1916 годзе. Пасля прызыву ў армію быў накіраваны ў Барысаўскае танкавае вучылішча, якое скончыў 19 чэрвеня 1941 года, г.зн. яшчэ ў мірны час. А ў канцы гэтага месяца ён ужо прыняў першы бой на берагах Бярэзіны, абараняючы горад Барысаў. Адыходзіў да Масквы, каб праз тры гады вярнуцца ў Беларусь у складзе наступаючых войскаў. У 1945 годзе, камандуючы батальёнам у званні капітана, быў цяжка паранены і пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў роднае сяло інвалідам. Нягледзячы на гэты фактар, адпрацаваў па сваёй грамадзянскай прафесіі 46 гадоў. Уганараваны ордэнам Чырвонага Сцяга і шэрагу іншых дзяржаўных узнагарод. Памёр у 2014 годзе.

Цяжкімі абарончымі баямі ля Бярэзіны пачаўся для курсанта Барысаўскага танкавага вучылішча Міхаіла Фёдаравіча Каралёва (1919, Саранск) доўгі баявы шлях праз пылаючы горан вайны. Але ён сышоў з яе датэрмінова. У жніўні 1944 года старэйшы лейтэнант Каралеў з кантузіяй і цяжкім раненнем вярнуўся дадому. З ордэнамі і медалямі.

Званне Героя Савецкага Саюза падчас войнаў было прысвоена некалькім былым курсантам Барысаўскага танкавага вучылішча (але не за заслугі на Бярэзіне). Сярод іх выхадзец Самарскай вобласці Анатоль Васільевіч Мельнікаў (1922 – 1991). Яму было прысвоена гэтае званне толькі ў траўні 1990 года, хоць яго геройскі подзвіг быў здзейснены ў снежні 1943 года. Тады ў баях за горад Чаркасы малодшы лейтэнант Мельнікаў, камандуючы групай з чатырох танкаў, прарваўся ў тыл суперніка, знішчыў варожую роту пехацінцаў і вялікую колькасць баявой тэхнікі, але сам быў цяжка паранены. Акалічнасці таго бою склаліся так, што Мельнікава палічылі загінуўшым і адправілі пахаванку сям'і. Затрымалася на гады і заслужаная ўзнагарода Залатой Зоркай.

13 гадоў Менскае сувораўскае вучылішча ўзначальваў генерал-маёр танкавых войскаў Фёдар Андрэевіч Рудскі (1921, Аўдзееўка Данецкай вобл. – 1982). Смерць абарвала яго ваенную кар'еру ў Беларусі, але малавядома, што і пачыналася гэтая кар'ера на беларускай зямлі – у Барысаўскім танкавым вучылішчы. У шэрагах курсантаў гэтага вучылішча ля берагоў Бярэзіны ён прыняў і баявое крышчэнне. Далей было 3-е Саратаўскае (былое Барысаўскае) танкавае вучылішча, афіцэрскае званне, высокія камандныя пасады і подзвігі, адзначаныя Залатой Зоркай Героя і шматлікімі баявымі ордэнамі.

Палкоўнік Барыс Міхайлавіч Сапуноў (1921, пасёлак Аляксееўка Саратаўскай вобласці) у перыяд вучобы ў Барысаўскім танкавым вучылішчы быў сяржантам, але ў дні лютых абарончых баёў ля мастоў праз Бярэзіну яму прыйшлося камандаваць ротай, якая пазбавілася штатнага камандзіра. 30 чэрвеня і 1 ліпеня 1941 года гэтая рота, па загадах сяржанта, вінтоўкамі і пяццю кулямётамі з бяспрыкладнай зацятасцю стрымлівала націск пераўзыходзячых сіл суперніка і змагла адысці, захаваўшы баяздольнасць. Пасля дэмабілізацыі абаронца Барысава і ветэран вайны заняўся навукай. Доктар філасофскіх навук, прафесар.

Выхадзец Дагестана Муху Магамедавіч Хізроеў (1918-2003) прайшоў баявы шлях ад курсанта да палкоўніка, неаднаразова паранены, узнагароджаны 6-ю ордэнамі, у т.л. двума ордэнамі Чырвонага Сцяга. Удзельнічаў у баях з першых дзён вайны ў Барысаве, быўшы курсантам танкавага вучылішча. Тады ён падбіў гранатай варожы танк, але гэты подзвіг застаўся незаўважаным. Пасля ён скончыў ператворанае з Барысаўскага 3-е Саратаўскае танкавае вучылішча, праслужыў у ім некаторы час камандзірам узвода, а на фронт адправіўся камандзірам роты.

Барыс Радзівонавіч Янчуркін, курсант Барысаўскага кавалерыйскага, затым танкавага вучылішча. Памочнік камандзіра ўзвода. Нарадзіўся ў Сімферопалі ў 1915 годзе. Удзельнік абароны Барысава на межах Бярэзіны. Пасля быў паранены, але ў 1942 годзе вярнуўся на фронт. Некалькі месяцаў камандаваў транспартным узводам у складзе 30-й арміі. 14 траўня 1942 года быў арыштаваны і за дэманстрацыю перад салдатамі, якія сабраліся ў зямлянцы, падабранай фашысцкай улёткі прысуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбыў цалкам. У 1963 годзе рэабілітаваны, бо ў дзеяннях асуджанага не было складу злачынства. У 1985-м узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені. Працаваў мастаком, пісаў вершы, у якіх успамінаў і Барысаў, пакінуў успаміны.

Таксама вядома, што з танкавым вучылішчам у абароне рачной мяжы ля Барысава прымаў непасрэдны ўдзел камандзір узвода (будучы генерал-маёр) Сяргей Пятровіч Крахмалаў, які нарадзіўся ў 1920 годзе ў Бранскай вобласці.

Белых старонак у гісторыі Барысаўскага танкавага вучылішча яшчэ шмат.

***Аляксандр Розенблюм***

# А пытальнік навошта?

*У мінулым нумары майго любімага "Гомана" прачытаў нататку Вінцэся Стэфановіча "Непазбежнае развітанне з "Радзімай"?" і быў здзіўлены пытальнікам у загалоўку. Няўжо тут могуць быць якія-небудзь сумневы?*

Кожная ўлада імкнецца пазбавіцца ад таго, што прыносіць адны страты. Праўда, 150 чалавек прагаласавала супраць зносу будынка (далучаю і свой голас), лічачы, што яго варта было б прыстасаваць пад аб'ект культуры, і Вінцэсь Стэфановіч прыгнечаны, што іх меркаванне не ўлічылі. Але 150 гэта нікчэмны мізер у параўнанні з насельніцтвам горада. Большасці барысаўцам, мяркуючы па ўсім, гэтая праблема наогул, як кажуць, да лямпачкі. Гэтак жа, як і ўладальніка будынка мала хвалююць праблемы барысаўцаў. Яго цікавіць толькі размяшчэнне зямельнага ўчастка, дзе ён намерваецца пабудаваць краму. Ён ведае, што ў гандлёвых гігантах горад не мае асаблівай патрэбы, але разумее, што, пабудаваўшы гандлёвы цэнтр на месцы "Радзімы", яго канкурэнтаздольнасць не будзе пад пагрозай.

Зразумела, што дзяржава прадае "Радзіму" не ад добрага жыцця, а ад безграшоўя. Былі б у мяне грошы, я таксама выкупіў бы гэты будынак і стварыў бы там музей запалак або музей яўрэйскай кухні ў адпаведным экзатычным для горада кафэ, і, думаю, не пралічыўся б. Але ў мяне, на жаль, няма такіх грошай, ды і жыццёвы рэсурс на зыходзе. Так што бывай, "Радзіма"!

І яшчэ Вінцэсь Стэфановіч піша, што мог бы скласці некралог барысаўскім кінатэатрам. Ну, і колькі радкоў было б у гэтым некралогу – раздва-тры? Я па памяці магу скласці больш шырокі некралог каштоўнасцям, якія знішчаныя не вайной.

У першыя пасляваенныя гады ў горадзе функцыянавалі чатыры добраўпарадкаваныя паркі (Цэнтральны, Гарадскі, Кіраўскі, Шклозаводскі), дзе па вечарах ігралі духавыя аркестры, танцавала моладзь, адпачывалі пенсіянеры. Застаўся толькі Цэнтральны парк імя Горкага. Высеклі для патрэб будаўніцтва нават мемарыяльны парк Перамогі, які быў пасаджаны калісьці камсамольцамі ў раёне рамзавода. У горадзе, насычаным прамысловымі прадпрыемствамі, палічылі непатрэбнымі амаль усе гарадскія скверы – Дубкі, прывакзальны, ля сабора, па Камунальным завулку, па вуліцы Горкага. Капітулявалі перад вандалам, які пашкодзіў выдатны фантан "Хлопчык і рыбкі", які ствараў вакол сябе мілавіднае пастаральнае асяроддзе. Гэты куток у летні час заўсёды прыцягваў публіку для вячэрняга адпачынку. Рамантаваць не сталі, і фантан знішчылі.

Выклікае здзіўленне і бесцырымоннае стаўленне да архітэктурна-гістарычнай спадчыны: прыбудовы, перабобкі, непатрэбнае атынкоўванне цагляных будынкаў і бяздумнае "абцэгліванне" драўляных будынкаў, безгаспадарчае знішчэнне амаль усіх (каля 15) старадаўніх балконаў з каванымі і адліванымі рашоткамі. Усё гэта знявечыла гістарычнае аблічча Старога горада, але нікому да гэтай справы няма, за выключэннем, магчыма, тых 150 чалавек, якія згаданыя вышэй.

Думаю, што і ў шматлікіх іншых гарадах можна выявіць такія ж сімптомы бяспамяцтва. Але ўсё ж сустракаюцца і дзіўныя выключэнні.

Шмат гадоў таму, калі я яшчэ служыў у войску, мне давялося правесці каля сутак у паволжскім горадзе Мышкіне (я і раней згадваў яго ў сваіх публікацыях), які размешчаны недалёка ад Яраслаўля. Запомніліся дагледжаныя купецкія драўляныя і цагляныя дамы. Гэтыя пахкія расійскай правінцыйнай даўнінай церамы і церамкі выглядалі так своеасабліва і прывабна, што, здавалася, быццам я патрапіў у музей пад адкрытым небам.

Мне захацелася даведацца, што сабой уяўляе горад Мышкін у наш час.



*Старадаўні дом у райцэнтры Мышкін.*

Пасяленне заснавана ў XV стагоддзі. Сёння гэта райцэнтр, які тоне ў зелені. У ім 10 гістарычных аб'ектаў федэральнага значэння і яшчэ больш музеяў разнастайнага профілю. Чыгункі, на жаль, няма, найбліжэйшая станцыя за 21 км. Але для турыстаў гэта не перашкода. Штогод, каб пазнаёміцца са славутасцямі горада і яго жыхарамі, якія бязмежна любяць сваё радавое гняздо, паважаюць і берагуць яго гістарычную спадчыну, сюды прыязджаюць каля 140 тысяч дапытлівых грамадзян. А насельніцтва Мышкіна невялікае – меней 6 тысяч чалавек. У Барысаве насельніцтва больш, але стаўленне да сваёй гісторыі ў нас відавочна горш. Шкада!

***Аляксандр Розенблюм***



# Былая Крайняя вуліца

*Гісторыя і архітэктура вуліц новай часткі Барысава часта застаюцца незаслужана забытымі. Безумоўна, яны не такія старажытныя, як вуліцы гістарычнага цэнтра Барысава (хаця шэраг з іх як, напрыклад, і вуліца, пра якую пойдзе распавед сёння, узніклі яшчэ ў XIX стагоддзі). Але і на іх сустракаюцца збудаванні, якім больш за 100 год. Да таго ж не варта забываць і пра тое, што любы час пакідае пра сябе штосьці адметнае, сярод чаго можна сустрэць нямала вартага, што мае сэнс захаваць, каб праз пэўны час (у горадабудаўніцтве і яго гісторыі) не з'явіліся новыя штучнаўтвораныя белыя плямы (тым больш там, дзе Барысаў годна прадстаўлены ў архітэктуры). Адной з вуліц у новай частцы горада, архітэктура якой незаслужана забытая, з'яўляецца вуліца Арджанікідзэ.*

Калі казаць строга, то сучасная вуліца Арджанікідзэ складаецца з дзвюх частак, якія маюць розную гісторыю і зусім не падобную архітэктуру. Адна з іх – ад вуліцы Гагарына да праспекта Рэвалюцыі, другая – ад названага праспекта да вуліцы 30 год ВЛКСМ. Прычым першая частка вуліцы (яе найбольш стары кавалак – паміж праспектам Рэвалюцыі і вуліцай імя Тоўсцікава) мае на некалькі дзясяткаў год больш старую гісторыю (няхай вас не блытае тое, што нумарацыя дамоў пачынаецца з боку вуліцы 30 год ВЛКСМ).

Частка вуліцы Арджанікідзэ ад вуліцы Гагарына да праспекта пачала фарміравацца яшчэ ў апошнія дзесяцігоддзі XIX стагоддзя. Яна мела назву Крайняя або Крайне Батарэйная (па пэўных звестках, яна ў першыя часы свайго існавання называлася Палявая). Яе гістарычная забудова – драўляныя прыватныя жылыя дамы. З-за звычайнасці мы не прывыклі іх цаніць. Аднак свежым вокам каштоўнасць на першы погляд "звычайнага" нярэдка бачна лепей. Так, калі вы адкрыеце трэці том шасцітомнага выдання "Гісторыя беларускага мастацтва", які ўбачыў свет у Менску ў выдавецтве "Навука і тэхніка" ў 1989 годзе, то ў раздзеле горадабудаўніцтва 30-х – 90-х гадоў XIX стагоддзя ў якасці аднаго з тыповых прыкладаў дамоў працоўных 90-х гадоў XIX стагоддзя ўбачыце спасылку на дом №33 па вуліцы Арджанікідзэ ў Барысаве. Нярэдка характэрныя прыклады тыповых збудаванняў бываюць не менш важнымі для вывучэння архітэктуры (і маюць патрэбу ў захаванні), чым адметныя збудаванні. На жаль, згаданы дом №33 у першапачатковым выглядзе да нашага часу не дайшоў. І яго страта адбылася ў той сціплы час, які прайшоў ужо пасля таго, як свет убачыла згаданае вышэй выданне. Але на ўчастку вуліцы Арджанікідзэ паміж скрыжаваннямі з праспектам Рэвалюцыі і вуліцай Тоўсцікава захаваўся шэраг іншых старых драўляных аднапавярховых будынкаў.

На месцы часткі вуліцы паміж праспектам і вуліцай 30 год ВЛКСМ яшчэ на пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя была пустка. З надыходам новага часу ўзнікла патрэба і ў новых падыходах да горадабудаўніцтва, якія таксама далей з цягам часу значна эвалюцыяніравалі. Пустка, якая знаходзілася практычна ў цэнтры новай часткі горада, як нельга лепей падыходзіла для такіх "эксперыментаў". Менавіта ў гэты час (у сярэдзіне 20-х гадоў XX стагоддзя) фарміруецца новая вуліца (дакладней, некалькі вуліц) з цэлым мікраёнам – так званым Рабочым пасёлкам (па нейкай прычыне гэта назва ў гарадской тапаніміцы не дайшла да нашага часу). Новая вуліца становіцца працягам больш старой (Крайняй) і атрымлівае назву ў адпаведнасці са сваім часам – Камунальная вуліца. Прычым на скрыжаванні вуліцы Арджанікідзэ з праспектам добра бачна, што старая і новая частка вуліц геаметрычна



*Дом, які быў узведзены адразу пасля вайны. Ён звяртае на сябе ўвагу сваёй нетыповасцю для Барысава.*

*Вуліца Камунальная (Арджанікідзэ) напрыканцы 20-х гадоў XX стагоддзя (зверху). Пераважная большасць будынкаў, што бачны на здымку, захавалася да нашага часу. Сучасны стан аднапавярховых будынкаў па левым баку вуліцы бачны на здымку справа. Дамы №14, 16 (знізу) і шэраг іншых былі таксама ўзведзены ў 20-я гады XX стагоддзя.*





*Дамы №20 і 22 (знізу), другой паловы 20-х гадоў XX ст. Сучасны стан. Адзін з такіх дамоў (справа), фота 1957 года (прадстаўлена да друку Ю.Бондаравым).*





*Вуліца Арджанікідзэ ля скрыжавання з праспектам Рэвалюцыі (знізу). Фота 1957 года (прадстаўлена да друку Ю.Бондаравым).*





*Вуліца Арджанікідзэ ў 20-я гады XX стагоддзя (здымак з фондаў Барысаўскага аб'яднанага музея). Бачна, што яна ў гэтым месцы яшчэ была ў стадыі будаўніцтва. Дакладнае месца, дзе быў зроблены здымак, невядома. Найбольш верагодна, што гэта яе ўчастак паміж сучаснымі вуліцамі Даўмана і Гагарына (выгляд у бок вуліцы Гагарына).*

не зусім добра "стыкуюцца". Тут маецца іх "злом".

Будаўніцтва жылых дамоў тут распачалося ў 1924 годзе (дарэчы – 1924 год з'явіўся пачаткам дзяржаўнага будаўніцтва жылля ў горадзе пры новай уладзе наогул). На працягу менш чым дзесяці год вуліца была цалкам забудавана.

Узвядзенне будынкаў у горадзе ў той час вялося не хаатычна, а строга ў адпаведнасці з планам, які быў зацверджаны мясцовым Камгасам. Апошні распачаў сваю дзейнасць у 1922 годзе адбудовай знішчаных або пашкоджаных у час вайны будынкаў. Трошкі пазней ён стаў займацца і будаўніцтвам жылых дамоў. Адначасова Камгас у адпаведнасці з тым самым планам даваў дазволы на прыватную забудову, выдзяляў участкі пад яе, зацвярджаў планы будынкаў, адпускаў неабходны для гэтых мэтаў лес.

У 1924 годзе ў Барысаве пачынае дзейнічаць Белдзяржбуд, які першапачаткова таксама займаецца толькі рамонтам і адбудовай пашкоджаных будынкаў, а потым распачынае ўзвядзенне новых дамоў. Дарэчы, менавіта Белдзяржбуд узвёў у Барысаве будынкі лякарні на Батарэях, клуб хімікаў (пазней – гарадскі Дом культуры) і іншыя важныя для горада і гісторыі яго архітэктуры будынкі.

З 1925 года будаўнічую дзейнасць у Барысаве распачынае і Жылкаапсаюз. Ён меў два аддзяленні: Камунар (у Новабарысаве) і Аб'яднанне (у старой частцы горада). Жылкаапсаюз і займаўся ўзвядзеннем будынкаў у Рабочым пасёлку (за выключэннем аднаго дому для працаўнікоў завода "Бярэзіна", які пабудаваў Белдзяржбуд), галоўнай вуліцай якога (але, як адзначалася вышэй, не адзінай) і з'яўлялася Камунальная вуліца.

З 1925 па 1928 гады на Камунальнай вуліцы Жылкамгасам было ўзведзена 10 аднапавярховых двухкватэрных дамоў і тры двухпавярховыя на шэсць кватэр кожны. Усе яны былі драўлянымі, большая частка захавалася да нашага часу.



*Адзін са старых дамоў канца XIX – пачатку XX стагоддзя з характэрным размяшчэннем фасада на найбольш старым участку вуліцы Арджанікідзэ паміж праспектам Рэвалюцыі і вуліцы Тоўсцікава.*

Напрыканцы 20-х гадоў у Барысаве праявіўся яркі росквіт стылю канструктывізм. Ён ніяк не мог абысці Рабочы пасёлак, фарміраванне якога ў гэты час яшчэ не было завершана. Тут напрыканцы 20-х – пачатку 30-х гадоў узводзяцца некалькі выразных збудаванняў гэтага стылю. Прычым усе яны былі муравацымі. У 1927 годзе ля самага пачатку вуліцы ў стылі канструктывізму быў пабудаваны клуб хімікаў (калі казаць строга, то нягледзячы на тое, што ў 1927 годзе ён афіцыйна быў здадзены і распачаў сваю працу, завяршэнне яго будаўніцтва працягнулася і ў наступныя гады; захаваўся па наш час). Напрыканцы 20-х гадоў на Камунальнай вуліцы ўзводзіцца яшчэ адзін двухпавярховы цікавы будынак у гэтым стылі – школа №8 (дакладней, будынак для аб'яднаных школ-сямігодак №7 і 8). Ён захаваўся па наш час (хаця і выкарыстоўваецца для іншых мэтаў). Аднак з-за больш позняй прыбудовы і змены фасадаў будынка зараз цяжка ўявіць яго цікавы першапачатковы від (яго глядзі на старым фота) і аб'ектыўна ацаніць яго значэнне для развіцця архітэктуры і горадабудаўніцтва Барысава. Яшчэ адзін яркі прыклад горадабудаўніцтва – дом у стылі канструктывізму, які фактычна завяршыў першапачатковае фарміраванне аблічча галоўнай вуліцы Рабочага пасёлка – мураваны двухпавярховы дом №7, які знаходзіцца на скрыжаванні былой Камунальнай вуліцы з вуліцай Рабочы хімік.



*Будынак 8-й школы (зверху і справа). Фота 1929 года У.Уладзімірава (з архіву Ю.Бондарава). На здымку зверху добра бачны драўляныя адна- і двухпавярховыя жылыя будынкі, добра вядомыя сучасным жыхарам нашага горада.*



*На здымку знізу бачны два характэрныя мураваныя будынкі часоў росквіту канструктывізму (іх сучасны стан). Крайні злева – жылы дом (пабудаваны ў 1932 годзе) і праз адзін – будынак згаданай вышэй былой 8-й школы (пабудавана ў 1929 годзе)*



Назва вуліцы – Камунальная не змагла доўга пратрымацца. Яна была перайменавана ў вуліцу (пэўны час яна лічылася праспектам) Арджанікідзэ, пад гэтай назвай яна і вядома сучасным жыхарам Барысава.

У 50-я і больш познія гады па вуліцы Арджанікідзэ (у былым Рабочым пасёлку) і непасрэдна ля яе замест старых было ўзведзена некалькі новых збудаванняў. Выклікае шкадаванне, што шмат якія з іх былі зроблены без уліку тутэйшых архітэктурных асаблівасцяў гэтага кутка горада і ўносяць у горадабудаўніцтва элементы сумбурнасці, хаосу, бураць яго эстэтычную і гістарычную прастору. Больш таго, варта яшчэ раз згадаць і бессэнсоўнае вынішчэнне важных у кампазіцыйным і архітэктурным плане аб'ектаў вуліцы ў апошнія гады. Напрыклад, двухпавярховых жылых дамоў №18 і 68 (нумарацыя апошняга – па праспекце Рэвалюцыі), якія былі ўзведзены ў сярэдзіне 20-х гадоў XX стагоддзя.

Што датычыцца часткі вуліцы Арджанікідзэ ад вуліцы Гагарына да праспекта Рэвалюцыі, то тут амаль 40 год таму распачалося павольнае будаўніцтва дзевяціпавярховых будынкаў, якія зараз занялі яе большую палову (як звычайна для Барысава – з элементамі "сумбурнасці" – адзін бок вуліцы забудаваны шматпавярховымі блочнымі будынкамі, другі – прыватнымі аднапавярховымі драўлянымі).

Сярод іншых збудаванняў гэтай часткі вуліцы варта адзначыць двухпавярховы мураваны дом №4?, які звяртае на сябе ўвагу нетыповай для Барысава архітэктурай. Ён быў узведзены адразу пасля вайны палоннымі немцамі.

Такім чынам, вуліца Арджанікідзэ з'ўляецца адной з найбольш цікавых і каштоўных у плане горадабудаўніцтва і архітэктуры вуліцай Барысава, значэнне якой не абмяжоўваецца ўзроўнем горада. Архітэктурная спадчына яе значнай часткі патрабуе большай увагі і аховы. Шкада, што мы гэта не заўважаем і не цэнім. Хацелася б выказаць пажаданне, каб мы "дайшлі" да разумення неабходнасці яе захавання раней, чым будуць знішчаны апошнія элементы гэтай вельмі своеасаблівай, але ў чымсьці цікавай старонкі гісторыі горадабудаўніцтва Барысава.

***Міхась Мацельскі***

*Машына МВУ-30.*

# Лаўрэат

*Ленінская прэмія, Сталінская прэмія, Дзяржаўная прэмія СССР, Дзяржаўная прэмія БССР – лаўрэаты ўсіх гэтых прэстыжных грашовых узнагарод ёсць і сярод нашых землякоў. Пра аднаго з іх хацелася б успомніць кароткай біяграфічнай даведкай.*

Яго звацъ Іван Францавіч Дземідовіч. Ён нарадзіўся ў 1930 годзе. Пасля заканчэння ў 1949 годзе Менскага аўтамеханічнага тэхнікума ён пастуліў працаваць на Беларускі аўтазавод, і з тых часоў уся яго працоўная дзейнасць была звязаная з гэтым прадпрыемствам і канструяваннем.

*І.Дземідовіч.*

У перыяд працы ён завочна скончыў індустрыяльны інстытут, стаў дыпламаваным інжынерам, што спрыяла павышэнню аўтарытэту і пасоўванню па службе. Зрэшты, яшчэ задаўга да заканчэння вну яго прызначылі вядучым канструктарам у адпаведным аддзеле, а пасля ён стане першым намеснікам галоўнага канструктара такога буйнога аўтамабільнага прадпрыемства, як МАЗ.

Прыкметным для інжынера-канструктара І.Ф.Дземідовіча стаў 1970 год. Тады "за творчы ўдзел у стварэнні канструкцыі ўніфікаванага сямейства высокапрадукцыйных вялікагрузных транспартных аўтамабіляў, аўтацягнікоў і аўтасамазвалаў МАЗ-500 і арганізацыі іх вытворчасці" яму была прысуджаная Дзяржаўная прэмія СССР.

Стварэннем канструктара з'явілася і сельскагаспадарчая самаходка МВУ-30 (гл. фота), якая выкарыстоўвалася для раскідання ўгнаенняў. Праўда, пры стварэнні гэтай машыны быў выкарыстаны амерыканскі досвед, але беларуская мадэль значна пераўзыходзіла замежную амаль па ўсіх параметрах. У 1981 годзе за гэтую працу Іван Францавіч быў узнагароджаны ордэнам Дружбы Народаў.

56 гадоў – такі да зыходу на заслужаны адпачынак працоўны стаж нашага земляка на адным прадпрыемстве.

***Аляксандр Розэнблюм***

# Шчасце жыць у мірнай краіне

*Люты. Надвор'е ў гэтым годзе незвычайнае: то мароз, а то ідзе мокры снег , свеціць сонца, бывае адліга. Скончыліся ўрокі. Анжэла Паўлаўна, класны кіраўнік, прапанавала падрыхтаваць да Дня абаронцаў Айчыны матэрыялы пра ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны.*

У нашай сям'і два асаблівыя святы: Дзень абаронцаў Айчыны ды Дзень Перамогі.. У гэтыя дні бабуля Валянціна Афанасьеўна пячэ пірагі, рыхтуе пачастункі. Мы садзімся за святочны стол. Успамінаем заўсёды маіх прадзеда Бабічава Афанасія Афанасьевіча і прабабулю Бабічаву Яфім'ю Дзянісаўну, якія жылі ў Гомельскай вобласці, Добрушскім раёне, пасёлку Дубецкае.

...У далёкім 1939 годзе мой прадзед быў прызваны ў Чырвоную Армію. Служыў на Далёкаўсходнім фронце, які знаходзіўся на граніцы з Квантунскай арміяй на тэрыторыі Кітая. Пасля 1941 года быў пераведзены ў Смаленскую вобласць, у раён горада Угра, для абароны Масквы.У час бою быў паранены. Пасля выздараўлення зноў быў накіраваны на фронт. За фарсіраванне рэк Дзісна і Днепр, захоп плацдарма прадзед быў узнагароджаны медалём "За адвагу". Пазней быў пераведзены ў разведроту, ваяваў на 1-м і 2-м Беларускіх франтах.

Бабуля асцярожна дастае памятную шкатулку, дзе захоўваюцца ўзнагароды прадзеда, усё, што напамінае аб ім: ордэн Славы трэцяй ступені, ордэн Славы другой ступені, ордэн Айчыннай вайны, медалі "За адвагу", За ўзяцце Кенігзберга", За перамогу над Германіяй", "Выдатны разведчык", "За шматгадовую добрасумленную працу", 18 юбілейных медалёў.

Прадзед ваяваў у дывізійнай разведцы, у групе захопу. Ён сам асабіста ўзяў жывымі трох нямецкіх "языкоў", але ў час траспарціроўкі адзін з іх загінуў. У той час за кожнага ўзятага "языка" давалі ордэн Славы. І таму прадзед быў узнагароджаны толькі ордэнамі Славы 3-й і 2-й ступеняў.

Потым бабуля дастае граматы, і я чытаю: "Чырвонаармеец Бабічаў Афанасій Афанасьевіч.

Вам, удзельніку баёў у час прарыву абароны немцаў на заходнім беразе ракі Нараў, паўночней Варшавы, за выдатныя баявыя дзеянні загадам №22 Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Маршала Савецкага Саюза т. Сталіна ад 17 студзеня 1945 года аб'яўлена падзяка. Камандзір часці гвардыі палкоўнік Афанасьеў.

На адваротным баку напісаны такія словы: "Хай вядзе Вас у гэтай вайне мужны вобраз нашых вялікіх продкаў – Аляксандра Неўскага, Дзмітрыя Данскога, Дзмітрыя Пажарскага, Аляксандра Суворава, Міхаіла Кутузава! Хай асяняе вас пераможны сцяг вялікага Леніна. І. Сталін".

Вось яшчэ адна: "Малодшаму сяржанту Бабічаву Афанасію Афанасьевічу. Вам, удзельніку баёў за гарады Гнеў (Метэ) і Старагард (Прэйсіш Старгард) – важныя апорныя пункты абароны немцаў на подступах да Данцыга, за выдатныя баявыя дзеянні загадам №294 Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Маршала Савецкага Саюза т. Сталіна ад 7 сакавіка 1945 года аб'яўлена падзяка". На адвароце чытаю: "У вялікіх бітвах Айчыннай вайны супраць нямецкага нашэсця Чырвоная Армія выратавала народы Савецкага Саюза ад нямецка-фашысцкага рабства, адстаяла волю і незалежнасць нашай Радзімы і дапамагла народам Еўропы скінуць нямецкае іга. І. Сталін."

І яшчэ адна. "Малодшаму сяржанту Бабічаву Афанасію Афанасьевічу.

Вам, удзельніку баёў за авалоданне горадам і крэпасцю Гданьск (Данцыг) – важнейшым портам і першакласнай ваенна-марской базай немцаў на Балтыйскім моры, за выдатныя баявыя дзеянні загадам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Маршала Савецкага Саюза т. Сталіна ад 30 сакавіка 1945 года аб'яўлена падзяка. Камандзір часці гвардыі палкоўнік Афанасьеў".

Пасля вайны прадзед працаваў чыгуначнікам.

Мая бабуля Валянціна Афанасьеўна – дачка Афанасія Афанасьевіча і Яўфім'і Дзянісаўны Бабічавых – працавала бухгалтарам да выхаду на заслужаны адпачынак. Дзядуля Сенін Іван Цімафеевіч працаваў начальнікам АТК. Яны выхавалі двух дзяцей: Лілію, маю маму, і дзядзьку Віталія. Я ганаруся табой, мой прадзед Афанасій Афанасьевіч!

Я вучуся ў 10 класе Навасадскай сярэдняй школы. Калі скончу школу, думаю паступіць у Акадэмію ўнутраных спраў, ахоўваць закон і парадак нашай Радзімы.

Завяршаючы, хочацца сказаць так:

"Дзякуй табе, мой прадзед. За перамогу, за тое, што мы не ведаем вайны".

Вечарэе. Чырвоная палоска неба відаць на небасхіле. Заўтрашні дзень абяцае быць сонечным і светлым. І на душы ў мяне радасна і светла.

***Лазерка Арцём,***
***вучань 10 класа Навасадскай сярэдняй школ***

# Эканамічная гісторыя Барысаўскага рэгёна і горада Барысава

## *(з найстаражытных часоў да сучаснасці)*

***(Працяг, пачатак у №10-12 (175-177) за 2013 г., 1-12(178-189) за 2014 г. і 1-12(191-201) за 2015 г., 1-9(202-211) за 2016 г., 1-2(214-215), 4-5(217-218) за 2017 г.))***

Завяршэнне грашовай рэформы ў 1924 г. стала найважнейшым стабілізуючым і стымулюючым фактарам для далейшага эканамічнага развіцця ўсіх шасці савецкіх рэспублік, якія на той момант складалі тэрыторыю пралетарскай краіны. Паміж тым, 1924 год памятны для Беларусі галоўным чынам першым тэрытарыяльным узбуйненнем рэспублікі (другое адбылося ў 1926 годзе, а завяршальны этап прыйшоўся на 1939 год).

Кароткая перадгісторыя пытання. 1 лютага 1921 года ў Цэнтральнае бюро КП(б)Б паступіла дакладная запіска за подпісамі 32-х уплывовых беларускіх дзеячаў, якія прапанавалі падняць пытанне перад урадам СССР аб пашырэнні рэспублікі "...на ўсход за кошт зямель, якія сумесна з паветамі Мінскай губерні ўяўляюць адзіны вытворча-гаспадарчы і этнаграфічны арганізм, г. зн. неабходна да БССР далучыць Віцебскую, Гомельскую і тыя паветы былой Магілёўскай губерні, якія далучаны да Смаленскай...". Нагадаю, што ў перыяд польска-савецкай вайны (1919-1920 гадоў) землі Віцебшчыны, Гомельшчыны і Магілёўшчыны па палітычных і вайсковых меркаваннях былі ўключаныя ў склад РСФСР. Пашырэнне ў процілеглым кірунку часова выключалася, бо беларускія землі заходней Менска паводле дамоўленасцяў паміж РСФСР і Польшчай адыходзілі да апошняй. Таму пасля заключэння Рыжскай мірнай дамовы 18 сакавіка 1921 года тэрыторыя ССРБ складалася толькі з шасці паветаў Менскай губерні – цалкам Бабруйскага, Барысаўскага і Ігуменскага, а таксама часткова Мазырскага, Менскага і Слуцкага.

Пытанне пра вяртанне БССР усходніх земляў, населеных пераважна беларускім насельніцтвам, увесь час падымалася рэспубліканскім урадам на працягу двух наступных гадоў. У канцы сакавіка 1923 года ўдзельнікі 2-й сесіі ЦВК БССР 4-а склікання звярнуліся ў ЦК РКП(б) з афіцыйнай прапановай урэгуляваць пытанне пра канчатковае вызначэнне тэрыторыі рэспублікі шляхам уключэння ў яе склад этнічных беларускіх раёнаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў. Менавіта з гэтага часу пачалася дбайная прапрацоўка беларускага тэрытарыяльнага пытання. Асноўныя накірункі дзейнасці кіраўніцтва БССР зводзіліся да наступнага: рэгулярныя звароты ў ЦК РКП(б), пошук аднадумцаў (чытай – лабістаў) у расійскіх/саюзных кіруючых органах, перадоленне супраціву з боку прарасійску настроеных мясцовых уладаў, тлумачальная праца з насельніцтвам усходнебеларускіх губерняў. Напружаная дзейнасць вялася на працягу ўсяго 1923 года і ўвянчалася поспехам.

7 сакавіка 1924 года Прэзідыум ЦВК СССР прыняў пастанову "Аб аб'яднанні ў складзе Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі ўсіх тэрыторый Савецкага Саюза з большасцю беларускага насельніцтва". Заканадаўчае афармленне па пашырэнні тэрыторыі БССР (рэспубліцы перадавалася 15 паветаў і асобныя воласці Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губерняў) адбылося на 6-м Усебеларускім Надзвычайным з'ездзе Саветаў, які праходзіў з 13 па 16 сакавіка 1924 года ў Менску. Не лішнім будзе сказаць, што ў склад прэзідыума з'езду ўваходзіў старшыня Барысаўскага павятовага выканаўчага камітэта А.І.Хацкевіч, якога там абралі членам ЦВК БССР. Ад цэнтральнай улады прысутнічаў старшыня ЦВК СССР М.І.Калінін, будучы маршал СССР М.Н.Тухачэўскі. Дарэчы, цягнік, у якім ехаў Калінін, зрабіў працяглы прыпынак на чыгуначнай станцыі Барысаў, дзе "ўсесаюзнаму старасце" была наладжана пышная ўрачыстая сустрэча. Сёння пра гэту падзею нагадвае мемарыяльная дошка, якая ўстаноўлена на будынку вакзала. На тым жа з'ездзе яго ўдзельнікі далі наказ беларускаму ўраду "распрацаваць план новага адміністрацыйнага дзялення Беларусі і... ажыццявіць раянаванне не пазней пачатку бюджэтнага года, прыцягваючы да гэтай працы павятовыя выканкамы, валвыканкамы і само насельніцтва".

Пачатак рэформы быў пакладзены пастановай ЦВК БССР ад 20 чэрвеня 1924 года аб адміністрацыйна-гаспадарчым дзяленні рэспублікі, у адпаведнасці з якім прадугледжвалася стварэнне акруг, раёнаў і сельсаветаў. Адным з найважнейшых крытэраў усталявання памераў адміністрацыйных адзінак з'яўлялася колькасць насельніцтва, якая пражывае на дадзенай тэрыторыі, а таксама захаванне прынцыпу "крокавай даступнасці" населеных пунктаў да свайго сельскага цэнтра. На месцах падрыхтоўчай працай займаліся адмысловыя камісіі, прапановы якіх улічваліся пры абмеркаванні памераў і меж той або іншай тэрытарыяльнай адзінкі.

Папярэднія вынікі дзейнасці камісій былі агучаныя на 2-й сесіі ЦВК БССР 6-а склікання, якая праходзіла з 10 па 17 ліпеня 1924 года ў Менску. У працы з'езду ізноў прымаў актыўны ўдзел А.І.Хацкевіч, праўда, ужо на пасадзе старшыні Магілёўскага павятовага выканаўчага камітэта. Выхадзец лошніцкай вёскі Навасёлкі выступаў у спрэчках па дакладзе аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні БССР і быў прызначаны членам дзвюх першаступенных камісій: па разглядзе праекту адміністрацыйна-гаспадарчага дзялення БССР і па распрацоўцы рэзалюцыі аб сельскагаспадарчай кааперацыі. У завяршаючы дзень сесіі яе ўдзельнікі прынялі выніковую пастанову "Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні БССР" і дадатку да яго. Замест скасаваных паветаў і валасцей уводзіліся акругі (10) і раёны (100).

Тэрыторыю Барысаўскай акругі з акруговым цэнтрам у горадзе Барысаве склалі землі Барысаўскага павета. Аднак сем валасцей, якія раней ўваходзілі ў склад павета, цалкам або часткова адышлі да трох суседніх акруг:

а) Менскаму (Гайна-Слабодская, Смалявіцкая, Глівінская, Лагойская, Юр'еўская);

б) Магілёўскаму (Эсьмонская);

в) Полацкаму (Вяліка-Долецкая).

Адначасова ў склад Барысаўскай акругі былі перададзеныя цалкам або часткова землі:

а) Аршанскага павета (3 воласці);

б) Лепельскага павета (11 валасцяў з горадам Лепелем);

в) Чэрвеньскага павета (5 валасцяў).

Барысаўская акруга складаўся з дзевяці раёнаў, якія атрымалі назву ад сваіх раённых цэнтраў:

1) Барысаўскі – горад Барысаў;
2) Крупскі – мястэчка Крупкі;
3) Бярэзінскі – мястэчка Беразіно;
4) Зембінскі – мястэчка Зембін;
5) Плешчаніцкі – мястэчка Плешчаніцы;
6) Бягомльскі – сяло Бягомль;
7) Холопеніцкі – мястэчка Холопенічы;
8) Чарэйскі – мястэчка Чарэя;
9) Лепельскі – горад Лепель.

Наступным крокам ва ўпарадкаванні адміністрацыйна-тэрытарыяльнай сістэмы стала прыняцце ўрадам БССР 20 жніўня 1924 года пастановы аб дзяленні раёнаў на сельскія саветы.

Барысаўскі раён быў падзелены на 17 сельсаветаў, якія ў сваю чаргу названы ад іх цэнтраў:

1) Вялікастахаўскі – вёска Вялікае Стахава;
2) Бродаўскі – сяло Бродаўка;
3) Бытчанскі – сяло Бытча;
4) Вяляціцкі – сяло Вяляцічы;
5) Глівінскі – сяло Глівін;
6) Забашавіцкі (Забашаўскі) – сяло Забашавічы;
7) Зачысцкі (Зачысценскі) – сяло Зачысце;
8) Жыцькаўскі – вёска Жыцькава;
9) Кішчына-Слабодскі – сяло Кішчына Слабада;
10) Лошніцкі – сяло Лошніца;
11) Мётчанскі – вёска Мётча;
12) Неманіцкі – сяло Неманіца;
13) Навасёлкаўскі – вёска Навасёлкі;
14) Аздзяціцкі – сяло Аздзяцічы;
15) Перасадскі – вёска Перасады;
16) Хаўхоліцкі – вёска Хаўхоліца;
17) Чарневіцкі – вёска Чарневічы.

Звяртае на сябе ўвагу асобна створаны Зембінскі раён, у склад якога першапачаткова ўвайшло сем сельскіх саветаў: Ганцавіцкі, Гарэлалугскі, Зембінскі, Камянецкі, Карсакавіцкі, Мсціжскі і Швабскі (апошні цяпер у складзе Лагойскага раёна).

Акрамя іншага, шэраг населеных пунктаў сучаснай Барысаўшчыны апынуўся ў складзе тагачасных раёнаў, сумежных да Барысаўскага раёна. Напрыклад, Барань, Жортай і Траянаўка сталі цэнтрамі Баранскага, Жартайскага і Траянаўскага сельсаветаў Халопеніцкага раёна, а вёска Недаль – Недальскага сельсавета Бягомльскага раёна.

Ужо ў 1925 годзе межы шэрагу раёнаў Барысаўскай акругі мелі першыя змены. Адбылося перападпарадкаванне сельсаветаў ад адных раёнаў да іншых. З'явіліся новыя сельсаветы, а некаторыя былі зліты або зусім скасаваны. Карэктывы ўносіліся згодна меркаванням сацыяльна-эканамічнага характару. Важная заўвага. Памер адміністрацыйнай тэрытарыяльнай адзінкі непасрэдна ўплываў на: прыходна-расходную частку бюджэту, аб'ёмы банкаўскага крэдытавання і фінансаванне рознага роду праграм, забеспячэнне насельніцтва прамысловымі і харчовымі таварамі, наяўнасць і аб'ём сыравінных рэсурсаў, працу мясцовых прадпрыемстваў, а таксама на грузаперавозкі, камунальнае і дарожнае будаўніцтва, землекарыстанне, развіццё гарадской і сельскай інфраструктуры... Пералік можна працягнуць.

Уключэнне ў склад БССР досыць развітых у гаспадарчых адносінах усходніх тэрыторый садзейнічала падвышэнню эканамічнага патэнцыялу ўсіх без выключэння рэгіёнаў рэспублікі. Тэрытарыяльнае ўзбуйненне мела вялікае значэнне для адраджэння і развіцця беларускай культуры, заклаўшы асновы і неабходныя ўмовы для правядзення працэсу беларусізацыі.

***Працяг будзе)***

***Аляксандр Балябін,***
*гісторык-археограф ДУК "Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка імя І.Х.Каладзеева"*




# Год за годам

## *(90-гадовая гісторыя СШ №1 горада Барысава ў біяграфіях яе настаўнікаў і вучняў, у гісторыі эпохі)*

*(Працяг, пачатак у №12(213) за 2016 г., 1-5(214-218) за 2017 г.)*

Мікалай Мікалаевіч Шэйдак сышоў з жыцця ў 48 гадоў, пасля трох інфарктаў. Думаю, якім горам было гэта для Еўдакіі Антонаўны. Засталіся без бацькі 16-гадовы Андрэй і 8-гадовы Уладзімір. Людміла Адамаўна распавядае, што бабуля як магла падтрымлівала сваіх унукаў і нявестку. Сёння Андрэй Мікалаевіч жыве ў Салігорску. Уладзімір Мікалаевіч паспяхова вучыўся, асаблівую цікавасць праяўляў да гуманітарных дысцыплін, ужо ў школе добра авалодаў англійскай мовай. Але вучыцца пайшоў у Менскі політэхнічны інстытут і скончыў яго. Пачынаў працаваць у адной з фірмаў, у якасці перакладчыка некаторы час правёў у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах. 13 гадоў назад рэзка змяніў сваё жыццё. Скончыў Жыровіцкую семінарыю, стаў святаром у двух прыходах: пры царкве Пакроўскай Божай маці, якая мае 250-гадовую гісторыю, у Лагойскім раёне і ў новым прыходзе пры царкве Андрэя Першазваннага ў Менску (Серабранка). У 2017 годзе Уладзімір Мікалаевіч сканчвае вучобу ў Варшаўскай праваслаўнай акадэміі. У яго сям'і шасцёра дзяцей: трое сыноў і тры дочкі. Дзяўчаты яшчэ гімназісткі, старэйшы сын студэнт механіка-матэматычнага факультэта БДУ, сярэдні – студэнт медыцынскага інстытута, малодшы – школьнік (звесткі па стану на пачатак 2017 года).

Вернемся ў Буда-Кашалёва, дзе Еўдакія Антонаўна такі непрацяглы стан была шчаслівай. Ёй цяжка адной гадаваць сына, бацькі забіраюць малога ў Барысаў, ён жыве з бабуляй, дзядулем, дзядзькам Грышай (памятаеце, ён на фатаграфіі побач з Дуняй). Грыша – удзельнік Грамадзянскай вайны, інвалід гэтай вайны, цяжка хварэе. Яму неабходна пастаяннае лячэнне. Усе як могуць дапамагаюць яму. Еўдакія Антонаўна са сваёй мізэрнай зарплаты штомесяц шле дадому, у Барысаў, пераводы з кароткімі лістамі, поўнымі клопатаў аб родных, сыне. Бацька, Антон Сцяпанавіч, Грыша спраўна адказваюць на яе лісты, падрабязна распавядаюць пра Коленьку, пішуць пра яго пацешна, з яркімі дэталямі ў яго паводзінах. Наогул лісты Еўдакіі Антонаўны і яе родных маглі б быць прадметам адмысловай гутаркі, яны займаюць шмат месца ў яе жыцці. Да гэтага будуць прывучаны пазней і яе сыны, якія будуць пісаць ёй адусюль, куды б яны ні з'язджалі. І ў кожным лісце кранальнае стаўленне да маці, адзін да аднаго. Гэта дзіўна. Вялікай з'яўляецца перапіска Еўдакіі Антонаўны са шматлікімі блізкімі ёй людзьмі. Думаю, што захавалася іх маленькая частка. Некаторыя з іх мне давялося прачытаць, што дапамагло ўявіць Еўдакію Антонаўну яшчэ больш дзіўнай жанчынай.

У 1929 годзе яна перабіраецца ў Жлобін, гэты навучальны год працуе ў чыгуначнай школе №2. Коленьку забірае да сабе. Не магу не звярнуцца яшчэ да аднаго ліста, дасланага ёй з Барысава ў Жлобін. Ён ад пляменніка Еўдакіі Антонаўны Паўла, адпраўлены ім 27 лістапада 1929 года (штэмпель на ім выразны, пастаўлены як быццам учора). Гэта ўнікальны дакумент таго часу, які сведчыць не толькі пра жыццё нашай выпускніцы, але і пра шматлікія з'явы жыцця краіны ў канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Ліст напісаны дзіцём, уяўляе сабой маленькую паштовую картку, складзеную напалову. У такім выглядзе яна памерам з дзіцячую далоньку шасціпяцігадовага дзіцяці. Наклад гэтай карткі чатыры мільёны асобнікаў. Выдадзена яна ў Маскве ў 1929 годзе. На пярэднім (тытульным) яе боку ў раскладзеным выглядзе злева размешчана рэклама, якая паказвае ашчадную касу, у акенцы якой ветлівая, усмешлівая асоба працаўніцы касы. У чаргу да акенца стаяць людзі: яны натхнёныя лозунгам "Праводзь свой асабісты бюджэт праз ашчадную касу". Справа ад рэкламы месца для адраса таго, каму прызначаны ліст. Месца для адраса адпраўніка на ёй не прадугледжана. Так мы даведваемся, што Еўдакія Антонаўна жыве ў горадзе Жлобіне Гомельскай акругі. Павел у радку "Каму" піша: "Вучыцельніцы железнодар. школы Евдокии Быковой". Задаўшы некалькі традыцыйных пытанняў пра справы, пра сына Коленьку, хлопчык далей піша пра сваю бяду: "Цёця, вось што. Я няўчуся ў школе. Няпрыняли, бо бацька лишон голаса, дык я нявучуся, вучыцца дужа хочацца, можа вы можаце памагчы гору майму. Памагайце як можна" (арфаграфія, пунктуацыя захаваныя). У караценькім лісце маленькага дзіцяці нямала інфармацыі: ведае літары, чытае, піша, як кажа, як чуе, "на трасянцы". Роднай мовы няма, яна знаходзіцца пад моцным уплывам рускамоўнага насельніцтва, у гарадах якое нярэдка пераважае. У хлопчыка "пазбаўлены голаса" бацька, значыць, арыштаваны. З-за гэтага яго не бяруць у школу. Наіўнае дзіця робіць заклік да цёткі-настаўніцы ў надзеі, што яна зможа дапамагчы. Дарэчы, гэты ліст-паштоўку, ужо ў сталым веку, каментуе адна з сваячак Паўла – Марыя (пра яе мы распавядзем, калі прыйдзем у 1933 год). Нейкім цудам ацалеў маленькі лісток-запіска, які захоўваецца дзецьмі Марыі Мікалаеўны разам з лістом Паўла. Яна распавядае, чаму хлопчык напісаў гэты ліст Еўдакіі Антонаўне, і ў здзіўленні сканчвае запіску словамі: "Бацька быў пазбаўлены права голасу, а прычым былі дзеці??? калі ім так хацелася вучыцца".

Як рэагавала Еўдакія Антонаўна на гэты ліст пляменніка, невядома. Вершаў на гэтую тэму ў яе зборніку няма, а ці былі, ужо ніхто не адкажа.

У 1930 годзе Еўдакія Антонаўна ў апошні раз змяняе месца жыхарства: яна пераязджае ў Менск. Жыве на вул. Лаўская Набярэжная, у доме былога купца. Дом двухпавярховы, сцены ў ім паўтараметровыя, іх вымяралі па шырыні падваконнікаў. Вышыня столяў – 5 метраў. Пазней, малодшы сын Жэня, стаўшы дарослым, пабудаваў у пакоі другі паверх, на які ўзбіраўся па лесвіцы. Пасля вайны дом знеслі, знікла вуліца з гэтай назвай. Тут вырас будынак, як казалі ў народзе, беларускай ВДНХ. Зараз гэта ЭКСПО-Беларусь. Пасля зносу дома Еўдакія Антонаўна атрымала аднапакаёвую кватэру па вул. Асіпенкі.

Перадваеннае 10-годдзе Еўдакія Антонаўна працуе ў школах Менска №№ 15, 49, 14. Чым выклікана змена школ, невядома. Яна другі раз выходзіць замуж. Яе муж – Пётр Іосіфавіч Цярэшка, выпускнік політэхнічнага інстытута, член ВКП(б). Працаваў у Доме ўрада ў аддзеле жывёлагадоўлі. У 1932 годзе нарадзіўся іх сын – Жэня. Па расповедах родных Еўдакіі Антонаўны, шлюб шчаслівым не быў. Пасля разводу Пётр Іосіфавіч пераехаў у Дрыбін, дзе працаваў загадчыкам дарожным аддзелам райвыканкама. У 1941-м сышоў на вайну. У 1942 годзе загінуў.

30-я гады былі нялёгкімі ў жыцці Еўдакіі Антонаўны. У 1931 годзе ў Барысаве памірае маці. У лютым 1938-а ў бацькоўскім доме супрацоўнікі НКУС робяцьператрус. Шукаюць золата. Хтосьці, магчыма, данёс, што Антон Сцяпанавіч да рэвалюцыі меў вялікія зямельныя ўладанні ў Глівінскай воласці, не быў бедняком, не ўступіў у калектыў (так у народзе часта звалі калгасы). А Еўдакія Антонаўна яшчэ ў 1930 годзе пісала бацьку: "Дарагі татачка! Зараз пішыце, што ў Вас чуваць па калгасным будаўніцтве? Я вам ад душы раю запісацца ў калектыў. Я сама ў гэтым накірунку працую і вам раю зараз жа падаць заяву ў кіраванне калектыву, і Вас павінны прыняць. Калі ж не прымуць, то пішыце мне. Чытайце ў "Известиях" на першай старонцы артыкул за 15 сакавіка". (Відаць, Еўдакія Антонаўна мае на ўвазе пастанову ЦК ВКП(б) "Аб змаганні са скажэннямі партыйнай лініі ў калгасным руху", прынятую праз два тыдні пасля з'яўлення ў "Правде" артыкула Сталіна "Галавакружэнне ад поспехаў". – Заўв. аўтара). Артыкул Антон Сцяпанавіч, можа, і прачытаў, а ў калектыў так і не ўступіў. Не паслухаўся.

Захаваўся пратакол ператрусу ў доме Антона Сцяпанавіча Быка (вул. Калгасная, 16), складзены супрацоўнікам НКУС (прозвішча ўказана) у прысутнасці двух членаў кварткама (прозвішчы ўказаныя).

Што ж канфіскавалі пры ператрусе? Пералічаны: пашпарт, 2 пасведчанні, 6 розных паперак (так і напісана), 2 старыя календары 1928 і 1920 гадоў, 1 кніга "Новы запавет", даведкавая кніга, "Біблія" – 1, Зборнік духоўных песень, Слоўнік-траўнік, Замежны слоўнік – 1, Руска-царкоўная чытанка, ірваная кніга – 1. Пратакол датуецца 4 лютага 1938 года.

Антона Сцяпанавіча арыштавалі. Дадому ён не вярнуўся. Ніколі. Але пра гэта вершаў у Еўдакіі Антонаўны няма.

Калі пачалася вайна, Еўдакія Антонаўна, з двума дзецьмі, не магла эвакуіравацца. Яна засталася ў акупаваным Менску. Жыць не было за што. Уладкавалася на працу. Спачатку прыбіральшчыцай у галоўнай аптэцы па вуліцы Савецкай, а потым настаўніцай у першым і другім класах 30-й школы. Гэта мела сур'ёзныя наступствы ў яе далейшым жыцці. Пасля вызвалення Менска яе выклікалі ў НКУС для тлумачэння, як яна магла застацца ў акупаваным немцамі горадзе, ды яшчэ і працаваць. Можна выказаць здагадку, што размаўляў з ёй людскі супрацоўнік, які разумеў, што на руках у яе было двое непаўнагадовых дзяцей. Можа, параіў напісаць тлумачальную, у якой трэба было выказаць сваю біяграфію з указаннем усіх блізкіх сваякоў. Яна так і зрабіла. І гэтая біяграфія (мусіць, яе чарнавік) захавалася. Лаканічная, стрыманая, кожнае слова выверанае. Бацька быў працоўным, памёр (пра арышт, расстрэл не згадваецца). Родных сясцёр, братоў няма. Муж зводнай сястры і муж Еўдакіі Антонаўны, з якім разведзеная, – члены ВКП(б) (гэта важна). Зводны брат Грыша – удзельнік Грамадзянскай вайны і яе інвалід (гэта таксама добры аргумент). З вялікай мерай упэўненасці можна выказаць здагадку, што біяграфію ўхвалілі і Еўдакію Антонаўну пакінулі ў супакоі. Падпісана яна 28 ліпеня 1944 года.

Пасля вайны таксама былі цяжкія гады. Еўдакія Антонаўна працавала не толькі ў менскай школе №24, але ў канікулы падзарабляла ў дзіцячым садзе, у кіёску, атрымлівала на сына Жэню дапамогу за загінуўшага на вайне бацьку. Яўген Пятровіч скончыў політэхнічны інстытут, аспірантуру, стаў кандыдатам тэхнічных навук. Працаваў выкладчыкам у гэтым жа інстытуце, які ў 90-я гады быў пераўтвораны ў політэхнічную акадэмію. Нейкі час быў загадчыкам кафедрай. Сваякі кажуць, што любіў самую простую "вясковую" ежу, тлумачаць гэта галодным дзяцінствам, юнацтвам, якія наклалі адбітак на ўсё яго жыццё. Хоць наступнае жыццё яго была забяспечаным. Яўген Пятровіч увайшоў у сям'ю доктара медыцынскіх навук, першай у Беларусі жанчыны-прафесара, Заслужанага ўрача БССР, знакамітай нашай зямлячкі Тацяны Васільеўны Бірыч, родам з Лошніцы. Пазней яна стала членам-карэспандэнтам Акадэміі навук БССР, была ўганаравана званнем Героя Сацыялістычнай Працы, узнагароджана мноствам ордэнаў і медалёў. Адбылося гэта ў 1963 годзе, калі Яўген Пятровіч ажаніўся на адзінай дачцы Тацяны Васільеўны – Тамары Андрэеўне, якая таксама стала вядомым афтальмолагам рэспублікі, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, Заслужаным лекарам БССР. Пачынала працоўную дзейнасць пасля заканчэння Менскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута ў 1962 годзе ў горадзе Барысаве лекарам-акулістам. З 1975 па 2005 год працавала ў мединстытуце. Скончыла сваю працоўную дзейнасць галоўным афтальмолагам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

У 1964 годзе ў сям'і Тамары Андрэеўны Бірыч і Яўгенія Пятровіча Цярэшкі нарадзіўся сын Васіль, названы ў гонар прадзеда, Васіля Самуілавіча Бірыча, чалавека неардынарнага, таленавітага настаўніка. Яму, аднаму з першых у Беларусі, у 1941 годзе было прысвоена званне Заслужанага настаўніка БССР.

Сваякі Еўдакіі Антонаўны кажуць, што Еўдакія Антонаўна і Тацяна Васільеўна былі знаёмыя з часу вучобы ў Барысаўскім педтэхнікуме.

Бабуля Еўдакія Антонаўна прыглядае за ўнукам Васем разам з няняй: мама ўся ў навуковых справах, бацька працуе. Але Еўдакія Антонаўна ўсё разумее. Калі сын і нявестка з'язджаюць на адпачынак, яна няньчыцца з унукам і піша вершы: "Адпачывайце спакойна, бо дома/ Добра, калі з бабуляй унук./ Ды і няня добрая, Валя./ Вася любіць яе , быццам маці".

Васіль Яўгенавіч вучыўся ў той жа менскай школе №42, што і яго бацька, Яўген Пятровіч. Таксама скончыў політэхнічны інстытут. Разбіраючы велізарны сямейны архіў (прадзеда – У.С.Бірыча, бабуль – Т.В.Бірыч і Е.А.Бык, Я.П.Цярэшкі – бацькі, Т.А.Бірыч – маці) знаходзіць дзіўныя дакументы, матэрыялы, прадметы, якія прымушаюць па-іншаму паглядзець на сваіх сваякоў, найцікавых людзей сваёй эпохі. Яны пакінулі такую значную памяць пра сабе. Зараз ён гэта разумее асабліва востра. Цешыцца кожнай знаходкай, дзеліцца сваімі адчуваннямі. Зусім нядаўна радасна распавёў, што бацька, Яўген Пятровіч Цярэшка, у 1960 годзе быў першым у рэспубліцы чэмпіёнам Беларусі па падводным плаванні.

Яўген Пятровіч сышоў з жыцця ў 2013 годзе. Тамара Андрэеўна – у 2015-м.

Усе гэтыя гады Еўдакія Антонаўна пісала вершы. Тэматыка іх ранейшая. Ні адна з маркотных падзей яе жыцця ў іх не адлюстроўваецца.

У раздзеле зборніка "Пра вайну і мір" шмат палітызаваных вершаў. Усё часцей у іх сустракаецца імя Сталіна: ён вялікі, родны, "любімы палкаводзец і сябар дарагі", "хто любіць усіх дзяцей". У сакавіку 1953 года Еўдакія Антонаўна піша верш "На смерць Сталіна". У ім яна сцвярджае:

*Имя заветное будет жить с нами.*
*Сталина имя вовек не умрёт.*
*Крепкая партия Ленина – Сталина*
*В путь к коммунизму направит народ.*

Вядома, Еўдакія Антонаўна – чалавек той эпохі, у якую паспеў сфармавацца "народ", які стаў "народнымі масамі". У яго свядомасць былі трывала ўкаранёныя паняцці, якія існавалі самі па сабе, асобна ад рэальнага жыцця. І гэта той феномен XX стагоддзя, які зразумець і растлумачыць вельмі цяжка. А самае страшнае, што становіцца ўсё менш тых людзей, хто жадаў бы яго зразумець, асэнсаваць і далей

*(Працяг на стар.10)*

# Год за годам

## (90-гадовая гісторыя СШ №1 горада Барысава ў біяграфіях яе настаўнікаў і вучняў, у гісторыі эпохі)

(Працяг на стар.10)

жыць, вызваліўшыся ад фенаменальнага мінулага, быў бы здольны зірнуць на сябе, як на асобу, годную свайго народа, а не народных мас.

Раздзел зборніка "Школе" вяртае нас у той час, з якога мы пачыналі апавяданне ў гэтым раздзеле. Еўдакія Антонаўна распавядае пра тое, як прыехала ў Буда-Кашалёва вучыць дзетак: "Было дзіўна, калі/ Сорак пяць пар вачэй/ На мяне пазіралі ў той час". У іншым вершы яна ўспамінае, як вучылі дзяцей у прыстасаваных памяшканнях, набітых дзецьмі: "Калі ад сцяны да стала адзін крок,/ Дзе цяжка было павярнуцца".

Але вось яна, ужо быўшы на пенсіі, прыязджае ў Жлобін і бачыць новую школу і цешыцца, што не пазнаць пераўтвораныя дарагія месцы.

Часта прыязджала яна ў Барысаў, дзе ў яе было шмат сваякоў, унучатых пляменнікаў, дзяцей гэтых пляменнікаў, якіх яна звала ўнукамі. На тым участку, дзе на вуліцы Хацкевіча да 90-х гадоў стаяў бацькоўскі дом Еўдакіі Антонаўны, зараз жыве адзін з яе нашчадкаў.

Прысутнічала Е.А.Быкава і на 50-годдзі сваёй 1-й школы. Гэтай падзеі прысвячае верш "Паўвекавыя ўспаміны". Выступала з ім перад тымі, хто сабраўся ў школе 24 кастрычніка 1970 года:

*Помню я, как школа основалась –*
*Три учебника на целый класс.*
*А тетрадей вовсе не досталось,*
*Но огонь к учёбе не угас...*
*Помню – свет светил совсем не сильно*
*До проводки лампы Ильича.*
*Подкрутив винт лампы керосиновой,*
*Грызли мы науку сообща.*

І сканчвае гэтыя вершы пажаданнем, каб памкнуліся госці дарагія "стагоддзе святкаваць у нас!" На жаль, не адбылося стагоддзе.

У зборніку Еўдакіі Антонаўны ёсць раздзел "Дзецям". У ім сабраны вершы 60-70-х гадоў, прысвечаныя ўласным унукам і, мусіць, унукам сваіх знаёмых, сваякоў. Тут жа карагодныя песні, вершы ў гонар дзяржаўных свят і любімых народных, вершы-пажаданні дзецям, у якіх шмат дабрыні і любові.

У гэтым раздзеле ёсць вершы, у якіх Еўдакія Антонаўна разважае пра выхаванне. Не ўсё ў яе сходзіцца ў гэтым пытанні, не ўсё спалучаецца з будаўніцтвам камунізму. Яна перакананая: галоўнае ў выхаванні – прыклад добрага, а яго бракуе. Яе турбуе і такая з'ява, як бязлітасныя дзеці, маленькія і дарослыя. Мусіць, у яе ёсць прыклады такіх паводзін. Але яна іх не прыводзіць у сілу сваёй тактоўнасці. Магчыма, яна спадзяецца, што людзі адумаюцца. Яна па-ранейшаму верыць, што выхаванасць і адукаванасць чалавека – гэтая абавязковая ўмова, каб "хораша, разумна будаваць жыццё". І назва гэтага жыцця ў яе нязменная: камунізм.

Пачынаючы з палёту Ю.А.Гагарына ў космас і да апошняга касмічнага палёту, які здарыўся пры яе жыцці, тэма космасу становіцца для яе самай захапляльнай, што выклікала ў яе радасць, гонар, весялосць. Гэтыя вершы беражліва захаваны складальнікамі зборніка. Гэта адмысловы раздзел у ім.

І ўсё гэта – вонкавы бок жыцця Еўдакіі Антонаўны, унутраны складнік захоўвае вялікую таямніцу будовы чалавека. Калі меркаваць толькі па вершах, яна вялікая аптымістка, аддана служыць камуністычным ідэям. Не дапускае ніякіх ваганняў, выдатна ўпісваецца ў эпоху, ствараючы трывалую ілюзію ўсеагульнага савецкага шчасця. Нельга паверыць, што сэрца яе не адгукалася на тыя падзеі, якія адбываліся ў краіне, датычыліся яе блізкіх, знаёмых, ды і яе самой. Але чым далей, тым больш умацоўвалася перакананне: так трэба для руху наперад, да камунізму.

Размаўляючы з Васілём Яўгенавічам, мы прыходзім да думкі, што яе вершы маглі быць спосабам самазахавання, асабліва ў сталым веку. У ранняй юнацкасці, патрапіўшы ў кругазварот падзей, у атмасферу, кіпучай новымі ідэямі жыцця, абяцаннямі, якія захапілі мноства людзей, яна, безумоўна, ім паверыла, безумоўна, не магла разабрацца ў тым, што адбывалася, як і абсалютная большасць людзей.

Не магу паверыць, што Еўдакія Антонаўна забылася праператрус у бацькоўскім доме ў лютым 1938 года, арышт бацькі і яго расстрэл. Абедзве яе нявесткі выраслі без бацькоў: іх адправілі ў лагеры. Малодшаму ўнуку Еўдакіі Антонаўны з малых гадоў унушалі: у цябе толькі бабулі, дзядуляў няма. Адзін загінуў на вайне, другі памёр. Пра лагеры хлопчык даведаўся калі вырас.

Еўдакія Антонаўна – чалавек дзіўны. Жыццеўстойлівая, зачараваная новым жыццём, яна верна служыла ідэі камунізму, перанесла шмат складанасцяў, але не страціла аптымізму і выстаяла, насуперак усяму, у гэтым жыцці. Яна пражыла вельмі актыўна. Падобна, выпадкова, мімаволі, напісала сваю біяграфію ў шматлікіх вершах, далёкіх ад дасканаласці, але ідучых ад сэрца. У іх узрушаючае ідэалізаванае бачанне свайго часу, эпохі. Вядома, мы ніколі не даведаемся, бачыла яна на самай справе або вельмі жадала бачыць у сваім часе толькі стваральны пачатак светлай будучыні пад назовам камунізм. Але ў сваіх вершах яна склала гімн свайму часу.

Шчырасць, дабрыня, аптымізм, душэўная шчодрасць, багацце ўяўлення складаюць асаблівасці яе асобы, наводзяць на думку, што менавіта такія людзі складаюць надзейную, светлую, лепшую частку, маральную аснову любога чалавечага грамадства.

У духу такога ж аптымізму, запалу, які кіпіць у рыфмаваных радках нашай выпускніцы, шмат публікацый і ў газеце "Звязда" 1923 года.

Так, 23 красавіка друкуецца гутарка карэспандэнта са старшынёй Барысаўскага павятовага камітэта А.І.Хацкевічам. Аляксандр Ісакавіч характарызуе эканамічны бок жыцця павета. З другой паловы 1922 года, распавядае старшыня, прамысловасць набірае тэмпы як у вытворчасці, так і ў паляпшэнні якасці выпускаемай прадукцыі. Добра працуюць запалкавая і папяровая фабрыкі, шклозавод, дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы. Іх прадукцыя знаходзіць выгадны і своечасовы збыт.

Развіваецца сельская гаспадарка. Пашыраюцца пасяўныя плошчы, павялічваецца пагалоўе быдла. Умацоўваюцца эканамічна саўгасы, хоць і адчуваецца яшчэ агульная разруха пасля імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў. Але Аляксандр Ісакавіч упэўнены, што ў недалёкім будучым саўгасы змогуць служыць узорам для сельскай гаспадаркі.

Ідзе вялікае будаўніцтва ў Барысаве. Аднаўляецца электрастанцыя, пабудавана лазня, рамантуюцца будынкі, жылыя дамы. Да восені плануецца аднавіць усе масты і дарогі.

У нататцы ад 10 чэрвеня 1923 года гаворыцца пра тое, што прадукцыя прадпрыемстваў Барысаўскага павета будзе прадстаўлена на выставе ў Маскве, у тым ліку вырабы ручной вытворчасці ганчарнага завода. Дзве воласці павета пашлюць на выставу экспанаты жывёлагадоўлі.

У карэспандэнцыі пра стан адукацыі ў павеце распавядаецца, як, нягледзячы на цяжкае матэрыяльнае становішча, у наступіўшым навучальным годзе больш значнай стала культурна-асветніцкая праца. Пашырэла сетка школ: у павеце іх 300 . З іх 8 поўных сямігадовых (3 у Барысаве, 2 у Новабарысаве, 3 у павеце). У Барысаве працуе педтэхнікум, арганізаваны курсы для моладзі, рабфак у Новабарысаве.

Амаль у кожнай воласці ёсць хата-чытальня, у якой канцэнтруецца культурна-асветніцкая праца сярод дарослага насельніцтва, а таксама па адным ліквідпункту непісьменнасці.

"Советская Белоруссия" 22 жніўня паведамляла, што з Барысаўскага павета камандзіраваны 20 чалавек для навучання ў інстытутах рэспублікі.

Таксама ў газетах пішацца, што на агульных зборах грамадзян па справаздачах саветаў аб сваёй працы аднадушна прымаюцца рэзалюцыі, якія вітаюць савецкую ўладу, ухваляюцца мерапрыемствы па зямельным пытанні, па стварэнні таварыстваў узаемадапамогі, па адукацыі і іншых пытаннях. Заўважым, як з першых крокаў новай улады ўсе рэзалюцыі, якія прымаліся, поўныя выключнага аптымізму. Гэта стала заганнай практыкай у працы партыйных і савецкіх органаў, што і прывяло да паступовага росту недаверу людзей да ўлады, а ў 80-я гады – ён дасягнуў крытычнай масы.

Безумоўна, верыцца ў тое, што людзі, змучаныя Грамадзянскай вайной, нямецкай і польскай акупацыямі, гатовыя былі стаяць сцяной за мір.

Аўтар гэтай публікацыі, складзенай з матэрыялаў рэспубліканскіх газет 1923 года і надрукаванай у газеце "Камуністычная праца" (№158, 1983 год) заключае яе словамі: "Нягледзячы на лаканізм апублікаваных нататак таго часу, адчуваеш дыханне краіны, якая толькі што пачала будаваць новае жыццё, запал, натхненне людзей, якія скінулі кайданы капіталізму". Неаптымістычных нататкаў савецкія газеты таго часу, ды і не толькі таго далёкага часу, проста не друкавалі. Такая ў нас была прэса.

Першы выпуск сямігодкі ў нашай школе адбыўся ў 1923 годзе. Ён таксама яшчэ не сапраўдны. Тут давучваліся дзеці, якія былі прызнаныя здольнымі вучыцца ў школе II ступені, бо ўжо мелі пачатковую адукацыю, якая была атрымана да 1919 года. Уважліва гляджу ў твары на фатаграфіі з надпісам "Першы выпуск вучняў І-й Барысаўскае семигадавае школы у 1923 годдзе" (не дзівіцеся арфаграфіі – ліквідацыя непісьменнасці яшчэ толькі пачалася). У другім шэрагу сядзяць настаўнікі. Сярод іх Макар Паўлавіч Сальмановіч – новы загадчык школай. Ён будзе яе кіраўніком да 1932 года. Гэта самы доўгі перыяд знаходжання ў гэтай пасадзе за ўвесь даваенны час. На жаль, не атрымалася знайсці ніякіх дакументаў, слядоў наступнага жыцця Макара Паўлавіча.

Злева ад загадчыка – Любоў Яўгенаўна Брудно. Крайні ў гэтым шэрагу справа – Георгій Якаўлевіч Гольдзберг. (Падрабязней пра яго скажам у наступным раздзеле). Пяцёра іншых, на жаль, невядомыя. З васьмі настаўнікаў дзве жанчыны. Мужчын па дарэвалюцыйнай традыцыі, якая яшчэ не знікла, больш. У настаўнікаў твары інтэлігентаў, адзенне ўзораў той, дарэвалюцыйнай эпохі. У першым шэрагу чатыры вучаніцы, па баках два хлопчыкі. Трэці і чацвёрты шэрагі, у якіх стаяць выпускнікі 7-й групы (класа), дарэчы, вельмі дарослыя, уяўляюць тры вучаніцы і дзесяць юнакоў, гэта значыць, на фатаграфіі 19 выпускнікоў.

Вось у першым шэрагу трэцяя справа сядзіць на падлозе засланай кілімам, Рахіль Мазо. Яна нарадзілася ў Барысаве. 10-гадовай дзяўчынай была прынята адразу ў 5 групу (клас) 1 школы II ступені. З гэтага вынікае, што нейкая пачатковая адукацыя ў яе ўжо была. Працягнула навучанне ў Барысаўскім педтэхнікуме. Пасля яго заканчэння вучылася ў 2-м Маскоўскім ўніверсітэце на педалагічным факультэце. Педалагічныя факультэты ў СССР хутка будуць зачынены. Педалогія ( з грэч. навука пра дзяцей) падвергнецца рэзкай крытыцы як буржуазнае вучэнне, шкоднае для савецкіх дзяцей. У ім вялікая ўвага надавалася сукупнасці псіхалагічнай, біялагічнай і сацыялагічнай канцэпцый развіцця дзіцяці. Цэласнай тэорыяй педалогія не была. Паўстала яна ў канцы XIX стагоддзя ў ЗША і ў Заходняй Еўропе. Разам з поўным адхіленнем педалогіі з савецкай педагогікі на доўгія дзесяцігоддзі была адрынута псіхалогія, што стала сур'ёзнай памылкай, недахопам у выхаванні дзяцей.

З Масквы, пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1930 годзе, Рахіль Эфраімаўна вярнулася ў Менск. З 1931-а па 1941 год працавала навуковым супрацоўнікам Інстытута аховы мацярынства і дзяцінства. У 1940 годзе, не пакідаючы асноўнай працы, скончыла Менскі медыцынскі інстытут, лячэбнае аддзяленне.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны працавала ў Саратаве ўчастковым педыятрам, з 1942 па 1943 гады – у некалькіх эвакашпіталях лекарам, начальнікам аддзялення. Вядома, што было гэта ў гарадах Уфа і Какчатаў, аб чым сведчаць фатаграфіі, якія захаваліся ў сям'і Рахілі Эфраімаўны. Відаць, яна прайшла адмысловыя медыцынскія курсы, таму што ў шпіталі займалася хірургіяй. Узнагароджаная медалямі "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 г.г." і "За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 г.г.".

Вярнуўшыся ў вызвалены ад фашыстаў Менск, адразу ж разам з жыхарамі і медыцынскімі працаўнікамі прыступіла да ўзнаўлення лячэбных устаноў і працы ардынатарам, загадчыцай дзіцячым аддзяленнем Менскай гарадской 1-й клінічнай лякарні.

У 1946-49 гадах вучылася ў аспірантуры пры АН БССР. Пасля яе



*Бацька, маці Мазо і іх дзеці. Рахіль – побач з маці.*

заканчэння працавала на кафедры педыятрыі ў Беларускім дзяржаўным інстытуце ўдасканалення ўрачоў: асістэнтам, з 1956 года – дацэнтам, з 1966 – прафесарам, а з 1969 па 1980 год – загадчыцай кафедрай. У 1964 годзе становіцца доктарам медыцынскіх навук.

Рахіль Эфраімаўна Мазо з'яўляецца заснавальнікам дзіцячай кардыялогіі ў Беларусі. Ёю праведзены фундаментальныя даследаванні ў вобласці кардыялогіі дзіцячага ўзросту. Яны атрымалі шырокае прызнанне не толькі ў рэспубліцы, але і Савецкім Саюзе.

Яна член упраўлення Усесаюзнага таварыства дзіцячых рэўматолагаў, Беларускага навуковага таварыства дзіцячых урачоў. Доўгія гады з'яўлялася кансультантам Менскай абласной дзіцячай клінічнай лякарні.

У 1970 годзе, у дні святкавання свайго 60-годдзя, Рахіль Эфраімаўна атрымала вітальны адрас ад педыятраў горада Барысава, у якім землякі выражалі сваю любоў і захапленне яе здольнасцямі, дасягненнямі ў дзіцячай кардыялогіі.

У 1984 годзе за вялікі ўклад у развіццё педыятрычнай навукі і практыкі ў Беларусі прафесару Р.Э.Мазо разам з групай навукоўцаў была ўручана Дзяржаўная прэмія БССР.

У 1990 годзе праўленне Беларускага рэспубліканскага навуковага таварыства дзіцячых урачоў, віншуючы Рахіль Эфраімаўну з 80-годдзем, адзначала, што дзякуючы яе метадам абследавання хворых дзяцей вылечаны тысячы маленькіх пацыентаў, а праца па ўдасканаленні педыятрычных кадраў у рэспубліцы спрыяла развіццю іх ведаў, выкарыстоўванню ў паўсядзённай практыцы найноўшых дасягненняў.

Не стала Рахілі Эфраімаўны Мазо ў 2000 годзе. Пахавана яна на Маскоўскіх могілках у Менску.

Жыццё яе заслугоўвае вялікай нашай памяці, аповеду пра яе не толькі на старонках гісторыі нашай школы. Р.Э.Мазо была таленавітым лекарам, шмат зазнала ў сваім жыцці, мела мужнасць пераадольваць складаныя жыццёвыя праблемы. І яшчэ яна была дзіўнай жанчынай, выдатнага абаяння, дабрыні, мяккасці, заслужыла быць шчаслівай у замужжы.

Яе муж, Сяргей Аляксандравіч Малінін, нарадзіўся ў 1907 годзе ў Менску. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, спачатку на філалагічным факультэце. Падаваў вялікія надзеі ў паэтычнай творчасці, атрымаў высокую адзнаку Я.Коласа, як шматспадзеўны паэт. Але нечакана для ўсіх рэзка змяніў скіраванасць сваіх інтарэсаў на эканоміку і дасягнуў вялікіх поспехаў у сферы эканамічнай дзейнасці. Ён кандыдат эканамічных навук. У 1936-41 гады працаваў у Інстытуце эканомікі АН БССР старшым навуковым супрацоўнікам, намеснікам дырэктара па навуковай працы.

Чалавек вельмі дзейны, адукаваны, мыслячы, творчы, захоплены, ён заўсёды заставаўся закаханым у сваю жонку, цешыўся нараджэнню сына, меў шмат планаў у працы, марыў пра іх ажыццяўленне, для гэтага шмат працаваў.

У 1941 годзе, у першыя дні вайны, сям'я самастойна вырашыла эвакуіравацца з Менска. Сяргей Аляксандравіч з цяжкасцямі дабраўся з жонкай і маленькім сынам да Смалявіч, не раз падвяргаючыся нялюдскім бамбаванням нямецкіх самалётаў, зразумеў, што ў Барысаў эвакуіравацца бессэнсоўна. Немцы праз дзень-два будуць там. Ён прыняў рашэнне далучыцца да частак Чырвонай Арміі, якія адыходзілі, а жонцы з сынам настойліва загадаў дабірацца да Магілёва, адтуль – у глыб Расіі, у Саратаў. Гэта было вельмі цяжкае рашэнне пакінуць жонку з дзіцем, але адзіна правільнае ў тых умовах.

Сяргей Аляксандравіч служыў палітруком роты, камісарам батальёна, намеснікам камандзіра палка па палітчастцы. Двойчы быў цяжка паранены. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, вайсковымі медалямі. За пасляваенную працоўную дзейнасць уганараваны двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Сяргей Мікалаевіч не быў абдзелены ўвагай і пры прызначэнні яго на прыкметныя і важныя пасады. У пасляваенны час ён лектар Палітуправы Беларускай вайсковай акругі. У 1946 годзе – дырэктар Інстытута эканомікі. З 1947 па 1953 год працуе ў ЦК КПБ.

Пазней у яго паслужным спісе праца намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР, Старшыні Дзяржплана рэспублікі. У 1965-1969 гадах працуе рэктарам інстытута народнай гаспадаркі.

У 2003 годзе ў Барысаўскі краязнаўчы музей з Менска прыязджаў сын Рахілі Эфраімаўны і Сяргея Мікалаевіча. Ён прывёз з хатняга архіва сваіх бацькоў, якіх ужо не было ў жывых, цікавыя сямейныя фатаграфіі, некаторыя дакументы, старую друкаванку, на якой Рахіль Самуілаўна надрукавала рукапіс сваёй мастацка-дакументальнай аповесці "Гарачае сэрца" пад псеўданімам У.Уладзіслаўскі.

Нават беглы прагляд аповесці выклікае велізарную цікавасць. Вельмі чыстая, пісьменная літаратурная мова, найцікавыя факты пра пачатак вайны, пра самастойную эвакуацыю жыхароў Менска, пра першыя спробы Чырвонай Арміі абараняць Айчыну і ўсё ж адыходзіць, пра страту тысяч людзей, вайскоўцаў і мірных жыхароў. У ёй мноства лістоў героя аповесці Канстанціна Калініна з фронту сям'і, якая знаходзілася ў эвакуацыі. І нарэшце, вяртанне членаў гэтай сям'і ў вызвалены Менск. Карціны поўнай разрухі і зараз ужо працоўнага гераізму людзей.

Не выклікае сумневу, што аповесць гэтая пра перажытае Рахіллю Эфраімаўнай і яе мужам. Але больш кніга пра яго, яе мужа, чалавека, які мае гарачае сэрца, дапытлівы розум, б'ецца з руціннай сістэмай, бюракратызмам, нежаданнем людзей, якія стаяць ва ўладзе, браць на сябе адказнасць, прымаць рашэнні.

І гэта прытым, што галоўны герой упэўнены ў правільнасці абранага пасля рэвалюцыі шляху, у правільнасці ідэй Маркса, Энгельса, пра скажэнне гэтых ідэй, якое адбывалася, адыходу ад іх у савецкай дзяржаве.

Ёсць надзея, што мы яшчэ вернемся да пачатай гутаркі аб Р.Э.Мазо, дапоўнім яе жыццяпіс. Несумнеўна, яна гонар нашай школы.

Хто ж іншыя яе аднакласнікі? Як хацелася б даведацца пра іх, але, на жаль, нават доўгі пошук наўрад ці меў бы поспех, калі ведаеш, колькі выпрабаванняў іх чакала ў XX стагоддзі, асабліва першай яго палове. І архіўныя дакументы гэтага перыяду не захаваныя.

Рушым пакуль у 1924 і 1925 гады.

***(Працяг будзе)***

***Ларыса Белая***

# Адтуль, з далёкай зімы ў Мётчы... Успаміны-нататкі пра Рыгора Барадуліна

*(Заканчэнне, пачатак у №12(213) за 2016 г., 1-5(214-218) за 2017 г.)*

Барадулін заўсёды, а асабліва на дарагой Вушаччыне, шмат хадзіў пешшу. Вось і ў той помны дзень вёў Рыгор Іванавіч на вушацкія могілкі (Бутаўшчыну) да месца вечнага спачыну Акуліны Андрэеўны, мяне, маю спадарожніцу жыцця Любоў Фёдараўну і нашага сына Янку. Да асаблівага хвалявання і надзвычайнай узрушанасці далучалася тое "святое штосьці", што заўсёды з'яўлялася творчай дамінантай паэта. Калі потым аддавалі даніну павагі і любові маці паэта, то вобраз Акуліны Андрэеўны ў нашым уяўленні ўсё больш набываў зямное аблічча. Расплываліся ў тумане вечнасці ідэальныя значэнні вобразу маці паэта, а ўсё больш і больш пачыналі бачыцца зямныя, рэальныя рысы вушацкай Акуліны Андрэеўны, той, якую ўжо сёння мы добра ўяўляем па кнізе ліставанняў "Паслаў бы табе душу...".

А Рыгор Іванавіч тым часам шчыраваў ва ўнутранай абгародцы магілы, дакранаўся вуснамі да гранітнага барэльефа выявы маці і расказваў пра Уладзіміра Лабанка, аднаго з тагачасных кіраўнікоў дзяржавы, які садзейнічаў у набыцці і вырабе надмагільнага помніка. А ў памяці ўсплывалі барадулінскія радкі:

*Душа прагоркне ў палыне.*
*Сон абначуе за барамі.*
*А голас мамін будзе мне*
*Гучаць,*
*Нібы малітва ў храме...*
*Яшчэ пярун сябе кляне,*
*І рана зачыняцца браме.*
*А голас мамін ува мне*
*Гучыць, як у забытым храме*

За больш чым сорак гадоў сяброўства з Рыгорам Іванавічам (у студэнцкія гады – нясмелага, пазней – вельмі спагадлівага і ўважлівага, а ў апошнія – яшчэ амаль бацькоўскага) надараліся і ўзнікалі дзясяткі сустрэч і многія сотні тэлефанаванняў. То былі заўсёды самыя лепшыя хвіліны, гадзіны і дні майго жыцця. Ад тых сустрэч і размоў цяплела мая душа, добра і ўзнёсла думалася і тварылася. Таксама, як і ад сустрэч і размоў з яго мілай, добрай і мудрай жонкай Валянцінай Міхайлаўнай.

Рыгор Барадулін заўсёды здзіўляў сваім вечным аптымізмам, нескончанымі цікавымі і займальнымі, спрэс аздобленымі гумарам, гісторыямі са свайго ўнікальнага жыцця. І ён жа радаваў сваім добрым позіркам, мудрай усмешкай, дасціпным народным словам. Паэзіяй і жыццём Рыгора Барадуліна трэба было загрузіцца. І я вельмі шчаслівы ад таго, што мне зрабіць на гэтым свеце тое змаглося.

Божа! Сотні такіх імгненняў, сустрэч, тэлефанаванняў! І ніколі-ніколі думаць нават не хацелася, што аднойчы больш не пачуеш родны, блізкі, такі свой голас!

Вестка пра смерць Рыгора Іванавіча з'явілася нечакана. У нядзелю, 2 сакавіка, а сёмай гадзіне вечарам прысеў да манітора камп'ютара. Як заўжды, на пачатку ўзнікла мая экранная застаўка, дзе Рыгор Барадулін у вышыванцы за сталом свайго хатняга рабочага кабінета. Адкрыў сайт "Нашай Нівы". А там...паведамленне пра смерць паэта...

Не хочацца верыць! Бо яшчэ толькі пяць дзён таму, 24 лютага 2014 года, я віншаваў Рыгора Іванавіча з 79-годдзем. Ён жыва і ахвотна дзякаваў. Цікавіўся Янкам, спадарыней Любай, другімі нашымі сямейнікамі. І гаварыў, як мне падалося, разборліва, зразумела.

Бо за два месяцы да гэтага, 29 снежня 2013 года. калі мы з Любай былі ў гасцях у Рыгора Іванавіча і Валянціны Міхайлаўны, ён выглядаў крыху слабым і цяжкаватым. Але ў той жа час заставаўся са сваім барадулінскім гумарам. Усё некалькі разоў пераказваў "салёнае" чатырохрадкоўе і пытаўся, ці запомнілі. Ды куды там! Бо не здагадаліся запісаць, а потым і наўпрост забылі. А яшчэ колькі разоў паэт паўтарыў мною ўпершыню пачутае з яго вуснаў: "Нічагусенькі". Праўда, слова гэта я падаю ў перакладзе з "салёнай" яго інтэрпрэтацыі. Прайшло мо больш за дзве гадзіны, мы зазбіраліся з гасцей, пакідаючы толькі студэнта-валанцёра, медыка, які па ўласнай ахвоце і са згоды паэта вось ужо колькі месяцаў дапамагаў Рыгору Іванавічу аблегчыць усе хваробы. Ды тут раздаўся званок, і ў кватэры Рыгора Барадуліна ўзніклі самыя блізкія сябры паэта: Уладзімір Някляеў з жонкай Вольгай і Сяргей Шапран.

Было потым невялікае застолле, з'явіліся знакамітыя быкаўскія біклажка са шкалікам. І яшчэ мы фатаграфаваліся. Ужо сёння ўспамінаецца ўзніклае тады прадчуванне нечага нядобрага ў хуткім будучым. Але благая думка неўзабаве згасла і ўсім па-ранейшаму было добра. Праз 63 дні Рыгора Барадуліна не стала.

Але застаецца памяць, удзячнасць, словы, радкі, вершы, паэмы, артыкулы, кнігі, лісты і аўтографы. Застаецца непарыўная повязь з паэтам, чалавекам, старэйшым сябрам. Ён усяго сябе аддаў любімай Беларусі і вярнуўся ў родную Вушаччыну да сваёй дарагой маці Акуліны Андрэеўны. Назаўжды!

Толькі "у крынічнай журбе жырыцца беларуская мова" ды "галосіць вясна перапёлкаю шэрай". Пастаўлена апошняя "залатая кропка стомленага шчасця". А ў нашай мядоцкай старонцы, у нашых азяблых сэрцах "рупіцца юны год, год без цябе другі...".

***Уладзімір Лайкоў***

# Да 85-годдзя Анатоля Анікейчыка

*Анатоль Аляксандравіч Анікейчык нарадзіўся 11 ліпеня 1932 года. Народны мастак БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР і іншых узнагародаў.*

*Анатоль Анікейчык.*

Так атрымалася, што доўгія гады пасля заканчэння 6-й сярэдняй школы мы не бачыліся. За гэты час кожны з аднакласнікаў атрымаў спецыяльнасць, знайшоў сваё месца ў жыцці. Шмат хто жыў у розных гарадах вялікай на той час краіны.

Скончыўшы інстытут, я працавала ў 16-й сярэдняй школе, а потым перайшла ў краязнаўчы музей. У сярэдзіне 1970-х гадоў, у час рэспубліканскай нарады музейных работнікоў, нас запрасілі ў Палац мастацтваў на адкрыццё выставы твораў беларускіх мастакоў. І тут, пасярод велізарнай залы, сярод вядомых гасцей я ўбачыла знаёмую фігуру свайго аднакласніка Анатоля Анікейчыка.

Безумоўна, да таго часу я ведала, што ён стаў вядомым скульптарам, ведала і бачыла яго працы на менскіх вуліцах і ў парках: мемарыяльныя знакі на месцах, дзе фашысты ў гады вайны каралі смерцю членаў Менскага падполля і першага рэдактара газеты "Звязда" У.Амельянюка, манументальны комплекс у Купалаўскім парку над ракой Свіслач, лірычны фантан ля гасцініцы "Менск". Ён добра праглядаўся з гасцінічнага нумара, і я з гонарам распавядала сваім калегам, што аўтар гэтых работ – барысавец і мой аднакласнік, народны мастак.

А тут, на выставе, усхвалявалася і не змагла падысці да яго: папрасіла нашага куратара з Міністэрства культуры прадставіць мяне. Затым былі прыемныя хвіліны ўспамінаў пра аднакласнікаў, настаўнікаў, дырэктара Васіля Андрэевіча Самцэвіча, які прывіваў нам любоў да беларускай мовы і літаратуры.

Анатоль у школе вылучаўся. Ён паходзіў з сям'і інтэлігентаў: бацька – урач, мама – настаўніца, дзядуля – юрыст. Ужо тады ён быў маляўнічы ва ўсім – вонкава, у манеры размаўляць, смяяцца, у сваёй рознабаковай і бурнай таленавітасці. Ён часта прыносіў у школу невялікія кампазіцыі, якія выляпляў дома з гліны або пяску, і мы пазнавалі ў іх вядомых герояў краіны.

У тым, што Анікейчык стаў мастаком, вялікая заслуга нашага настаўніка малявання і чарчэння Аляксандра Паўлавіча Крычэўскага. Яны вельмі сябравалі, мы часта бачылі іх за абмеркаваннем нейкіх вельмі важных для мастакоў тэм. Дыспуты паміж імі ўзнікалі і на ўроках.

А.П.Крычэўскі быў інтэлігентны мастак, яго добра ведалі ў Менску, дзе ён удзельнічаў у выставах. У 1949 годзе ён, разам з другой нашай настаўніцай Раісай Аляксандраўнай, быў узнагароджаны высокай па тым часе ўзнагароды – ордэна Леніна. У тыя гады, акрамя школьных урокаў, ён кіраваў дзіцяча-юнацкай мастацкай студыяй пры Доме культуры. Анатоль – адзін з самых актыўных і таленавітых яго вучняў, працы якога здзіўлялі наведвальнікаў гарадскіх і абласных дзіцячых выстаў.

Па характары Анатоль быў вясёлы, не зласлівы, добра сябраваў з хлопцамі. Але ўжо ў 10-м класе стаў спакайней, задумлівей, у яго з'яўляліся думкі, якія ён не заўсёды вымаўляў услых у школьным калектыве. І трэба прызнаць, што аднакласнікі ў такія хвіліны не заўсёды яго разумелі. А ён проста станавіўся больш сталым і, пэўна, асобныя рэчы разумеў больш востра чым мы, ведаючы пра незаслужаную смерць бацькі, адчуваючы ўціск на сям'ю рэпрэсіраванага, сумуючы разам з мамай аб страце на фронце старэйшага брата Барыса, які, будучы піянерам, пісаў лісты І.Сталіну ў абарону свайго бацькі.

Скончваючы сярэднюю школу, ён марыў, як шмат хто з нас, куды пайсці і чаму вучыцца надалей. Яго альма-маці – Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, скульптурнае аддзяленне. Вучыўся ў вядомых скульптараў А.Бембеля і А.Глебава, быў адным з актыўных удзельнікаў студэнцкіх і іншых менскіх выстаў. Год ад году майстэрства яго ўдасканальвалася, яго ведалі, з ім лічыліся, запрашалі да выканання заказаў.

Людзі з такім характарам, як у Анатоля, як брадзільныя дрожжы. Вакол яго канцэнтравалася шмат таленавітых людзей, і шматграннае жыццё праламлялася ў яго дзейнасці. Ён стварыў шэраг партрэтаў дзеячоў літаратуры, музыкі, палітыкі, навукі: М.Лынькова, Я.Купалы, Г.Ахматавай, Бетховена, А.Чарвякова, Чэ Гевары, Ф.Кастра і шмат каго яшчэ.

Іншыя работы адлюстроўваюць гісторыю краіны: помнік Мікалаю Гастэла пад Радашковічамі, за які атрымаў прэмію Менскага камсамола; фундаментальная работа на месцы партызанскага прарыву фашысцкай блакады ля г.п. Ушачы, які так і назвалі "Прарыў", кампазіцый "Памяць" і "Вясна Перамогі".

Горача любіў Анатоль купалаўскую тэму. У яго майстэрні стаяла серыя эскізаў помнікаў беларускаму паэту – гэта вынік яго пошукаў. Зараз партрэт Янкі Купалы ўпрыгожвае алею значных людзей свету ў Араў-парку горада Нью-Ёрка, скульптура паэта ёсць у парку в.Ляўкі Аршанскага раёна, дзе ён любіў адпачываць, манументальны комплекс з фантанам у менскім парку, дзе знаходзіцца музей паэта. За стварэнне гэтага помніка ў 1974 годзе А.Анікейчык атрымаў званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

Чароўныя створаныя аўтарам лірычныя работы, сярод якіх жаночыя партрэты, "Вясна", "Раніца" і інш.

Анатоль рана распачаў сваю педагагічную дзейнасць, працуючы ў тым самым інстытуце з 1959 года. Стаў дацэнтам, а з 1981 года ён ужо прафесар, загадчык кафедрай скульптуры.

Шмат з усяго названага я ведала яшчэ да сустрэчы з Анатолем на выставе. А потым пачаліся службовыя сустрэчы, у ходзе якіх я ўсё больш пазнавала таленавітую натуру свайго аднакласніка.

*Юбілейная сустрэча выпускнікоў 1952 года ў 1977 годзе ў СШ №6. А.Анікейчык стаіць у цэнтры групы.*

Набліжаўся 1977 год – 25-годдзе нашага школьнага выпуску. Адным з ініцыятараў першай сустрэчы быў Анатоль. Масква, Смаленск, Душанбэ, Менск, Петразаводск, Германія, Адэса – такая няпоўная геаграфія пражывання аднакласнікаў, якія прыехалі ў Барысаў. Вечар удаўся! Пасля таго мы амаль кожны год сустракаліся. На гэта, як заўсёды, падштурхоўваў Анатоль: патэлефануе і спытае: "Калі прыязджаць?".

Ён любіў Беларусь, любіў горад свайго дзяцінства, свой бацькоўскі дом на Чырвонасцяжнай, сваю Бярэзіну. У прызначаны дзень прыязджаў з Менску з самага ранку, блукаў па сонным горадзе, заглядваў у школьны двор, адпачываў у гарадскім парку, падоўгу сядзеў ля ракі. Потым ён казаў нам: "Бярэзіна на золку – гэта харашство, захапленне! Прыязджаючы ў Барысаў, я ўпіваюся паветрам роднага горада, яго цішынёй і няспешнасцю". І яшчэ: "Немагчыма перадаць пачуцці, калі падыходзіш да дома дзяцінства, націскаеш на клямку брамкі і яна адчыняецца, упускаючы цябе ў двор. Я потым доўга-доўга адчуваю на пальцах рукі датыканне да металу клямкі". Гэта клямка (старое прыстасаванне для адкрыцця і закрыцця дзвярэй) зараз знаходзіцца ў запасніках музея – давялося купіць сучасную дзвярную ручку ў замену на "клямку" па дамоўленасці з цяперашнім гаспадаром дома. У музеі захоўваецца яшчэ адна рэліквія: купон да беларускай вышыванкі, якую ён любіў насіць у дні адпачынку.

1978 год. Краязнаўчы музей арганізаваў сустрэчу вядомых землякоў, якая праходзіла ў Доме культуры пры запоўненай зале. Прыехала тады каля 20 гасцей, сярод якіх былі навукоўцы і вядомыя хлебаробы, пісьменнікі і мастакі, дзяржаўныя дзеячы і музыканты, людзі розных прафесій і лёсаў. Кожны з іх выражаў свае пачуцці да горада юнацтва, з якога яны разляцеліся па ўсёй краіне. Прафесар В.Пашкевіч распавядаў пра гераічныя і цяжкія дні барацьбы барысаўцаў у гады акупацыі, Герой Сацыялістычнай Працы А.Кажамякін – пра поспехі сельскіх працаўнікоў, паэт Л.Рашкоўскі славіў свой горад вершамі, спявачка М.Адамейка і кампазітар Р.Бутвілоўскі даравалі барысаўцам сваё мастацтва.

Анатоль Анікейчык прывёз тады ў дар гораду эскізны праект бюста Янкі Купалы для помніка ў Нью-Ёрку. Бюст, накрыты палатном, быў пастаўлены на сцэне. Выступаючы, Анатоль адкрыў яго пад апладысменты здзіўленых гледачоў. Сёння гэты бюст захоўваецца ў фондах музея. Тады ён выказаў сваю мару ўстанавіць помнік паэту, які часта бываў у нашым горадзе, у гарадскім парку. Мяркуемае месца звязана з выступленнем Янкі Купалы на адкрыцці помніка Леніну, які быў створаны ў 1934 годзе. У той памятны дзень паэт чытаў урыўкі з нядаўна напісанай паэмы "Барысаў".

На жаль, гэтая ідэя не здзейснілася, і сляды Янкі Купалы ў Барысаве засталіся толькі ў яго вершах, у кнігах і ў назве невялікай вуліцы.

Пазней ён падараваў гораду яшчэ два бюсты – П.М.Машэрава і Паўла Рака, якія таксама захоўваюцца ў запасніках музея з-за немагчымасці паказаць іх у сціслым памяшканні.

Анатоль неаднаразова выказваў думку пра тое, як упрыгожыць горад і зрабіць яго больш прывабным. Сваё бачанне выкладаў кіраўнікам Барысава. З ім пагаджаліся і нават было намечана месца для будучага манументальнага помніка, які б адлюстроўваў старажытную гісторыю барысаўскага краю. Аднак гэтая мара не здзейснілася, а на тым месцы зараз узвышаецца чарговы гандлёвы цэнтр.

1987 год. Барысаў адзначае сваё 885-годдзе. "Дзень горада" праводзіўся на новым гарадскім стадыёне, трыбуны якога запоўнілі шматлікія гледачы. Перад імі разгарнуліся касцюміраваныя падзеі з жыцця горада. Адзін з момантаў свята – уручэнне дыпломаў Ганаровым грамадзянам Барысава Пятру Рыгоравічу Мартысюку, які шмат год працаваў старшынёй гарвыканкама, і Анатолю Аляксандравічу Анікейчыку, барысаўцу, Народнаму мастаку БССР. Анатоль вельмі ганарыўся гэтым ганаровым званнем, не менш, чым іншымі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Праца ў краязнаўчым музеі шматгранная. Ствараючы новую экспазіцыю, мы шукалі магчымасць палепшыць яе, абагаціўшы выразнымі прадметамі.

Першым дарадчыкам у гэтым быў Анатоль. Ён пазнаёміў мяне з вядомымі скульптарамі С.Гарбуновай, Н.Крохалевым, У.Слабодчыкавым. У выніку ў музеі з'явіліся цікавыя скульптурныя работы розных перыядаў.

У гады творчых зносінаў я бачыла, што гэты вядомы мастак лёгка і свабодна, як бывала ў школе, сходзіўся і гутарыў з людзьмі. Ён праяўляў страсную дапытлівасць да ўсялякіх ведаў, пастаянная незадаволенасць тым, што зроблена, прымушала яго шмат разоў перарабляць задуманае, пакуль не знаходзілася канчатковае рашэнне.

У сваёй майстэрні ён тлумачыў мне, чаму на паліцах стаяла некалькі аднолькавых партрэтаў і што не задавальняла яго ў створаных эскізах. І я зразумела, што, як мастак, ён быў упартым, бо сэнс яго творчасці – пераконваць. А гэта цяжка. Цяжка дамагацца дасканаласці.

Сваіх герояў, над скульптурнымі партрэтамі якіх працаваў, ён любіў, шмат ведаў пра іх, мог часамі з захапленнем пра іх распавядаць. І слухаць яго было адно задавальненне. І не толькі слухаць. Я сама насычалася ведамі, вучылася разбірацца ў гэтым складаным накірунку ў мастацтве, паволі вучылася знаходзіць правільнае рашэнне сваіх праблем.

Ён памёр раптоўна 3 лютага 1989 года. Для развітання з Анатолем з горада выехала група барысаўцаў на чале з Р.Я.Матусевіч. Яго пахавалі на Усходніх могілках. На месцы яго пахавання – велізарны валун, які сімвалізуе моцнага, прыгожага ад прыроды чалавека, якому з юнацтва быў уласцівы, па выразу Іллі Рэпіна, "таемны гонар духу".

Усё тут сказанае – гэта погляд з сённяшняга дня. Здзіўляешся, як усё нядаўняе пайшло ў мінулае. Засталося галоўнае – уклад мастака ў культуру. Мы бачым яго працы, захапляемся імі, раздумваем над вобразамі, якія адлюстроўваюцца ў бронзе, любуемся прыгажосцю твораў таленавітага чалавека – нашага земляка Анатоля Анікейчыка.

***Жана Гілевіч***

# Захаванне мер засцярогі на вадзе – залог бяспечнага і прыемнага адпачынку!

Надышоў час летніх адпачынкаў, канікулаў, турыстычных вандраванняў. Лета – гэта і перыяд актыўнага наведвання жыхарамі шматлікіх месцаў адпачынку ля вады і купанні ў вадаёмах. І каб гэты адпачынак быў прыемным і бяспечным, неабходна ведаць і выконваць пэўныя правілы:

– купайцеся толькі ў спецыяльна адведзеных для гэтага месцах. У Барысаўскім раёне вызначаны для гэтага восем зон масавага адпачынку насельніцтва на р.Бярэзіна. У межах горада гэта Цэнтральны гарадскі пляж у раёне пешаходнага моста, зоны адпачынку ў раёне вул. Асіпенкі, "Дубкі" ў раёне чыгуначнага моста праз раку, па вул. Чырвонаармейскай, у раёне вул. Парашутыстаў, а ў сельскай мясцовасці – "Пяскі" на правым беразе ракі ў раёне в.Малое Стахава, "Брылёўскае поле" ў раёне в.Студзёнка і зона адпачынку на правым беразе ракі ў раёне в.Вялікае Стахава і в.Дудзінка;

– перад купаннем адпачніце, пасядзіце ў цені. Разгарачаным і стомленым уваходзіць у ваду не рэкамендуецца;

– лепш за ўсё купацца ў сонечнае надвор'е без ветру пры тэмпературы паветра не ніжэй 20-25°С, вады – 18-20°С;

– купацца варта не раней, чым праз 1,5-2 гадзіны пасля прыёму ежы;

– у ваду варта захадзіць пастулова, прывыкаючы да яе тэмпературы;

– калі вы нават добра плаваеце, разлічвайце свае сілы, не плавайце пры высокай хвалі. Не ўмеючы плаваць, не заходзіце ў ваду глыбей, чым па пояс;

– не заплывайце за знакі, якія пазначаюць зоны купання. Не ўзбірайцеся на буі, тэхнічныя і папераджальныя знакі і іншыя прадметы. Не падплывайце блізка да суднаў (маторных, парусных, вёсельных лодак), якія праплываюць, і іншых плавальных сродкаў;

– пры плаванні не карыстайцеся не прызначанымі для гэтага прадметамі: дошкамі, аўтамабільнымі камерамі, надзіманымі матрацамі і г.д.;

– не дапушчайце свавольстваў на вадзе, не падавайце ілжывых сігналаў трывогі. Гульні ў вадзе, звязаныя з ныраннем і захопам таго, хто купаецца, спрэчкі на дальнасць заплыву і працягласць знаходжання пад вадой могуць стаць прычынай няшчаснага выпадку;

– знаходзячыся ў вадзе, не даводзіце сябе да дрыжыкаў, пасля купання разатрыце цела ручніком;

– вельмі небяспечна нырыць у незнаёмым месцы. Неабдуманы скачок у ваду можа прывесці да траўмы і нават да смерці. Не скачыце ў ваду з лодак, катэраў, прычалаў;

– пры выкарыстоўванні плавальных сродкаў (лодак, катамаранаў) неабходна пераканацца ў аснашчэнні іх выратавальнымі сродкамі. Не перагружайце плавальны сродак, не разгойдвайце, не перамяшчайцеся з месца на месца на плаву.

Адпачывальнікам забараняецца:

– купацца ў пажарных вадаёмах, плацінах і шлюзах гідратэхнічных і меліярацыйных збудаванняў, месцах, якія не з'яўляюцца зонамі адпачынку насельніцтва на водных аб'ектах, чатырох вадаёмах у раёне мястэчка Печы, двух меліярацыйных вадаёмах у раёне вул. Заводскай, двух меліярацыйных вадаёмах у раёне вул. Кавалерыйскай, затоцы р. Бярэзіна ў раёне філіяла "Барымак" УП "Барысаўскі камбінат хлебапрадуктаў" ААТ "Мінскаблхлебапрадукт", вадаёме ў раёне ААТ "Барысаўскі завод агрэгатаў", р.Сха і сажалцы ў Лошніцы;

– забруджваць і засмечваць вадаёмы, заязджаць на тэрыторыю пляжаў на транспартных сродках, парушаць рэжым утрымання водаахоўных зон;

– распіваць на пляжы спіртныя напоі, уваходзіць у ваду і купацца ў нецвярозым стане. Памятайце! Нават невялікая доза алкаголю выклікае парушэнне каардынацыі рухаў, пазбаўляе здольнасці цвяроза ацэньваць свае дзеянні і сілу;

– пакідаць малалетніх дзяцей без нагляду;

– мыць на пляжах бялізну і купаць жывёл.

Пры неабходнасці аказання дапамогі звяртайцеся ў цэнтр аператыўнага кіравання Барысаўскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях па тэлефоне **101** або ў Барысаўскую выратавальную станцыю ТРВАД па тэлефоне **76-50-52**.

Памятайце! Строгае захаванне мер бяспекі на водах зберажэ вас і вашых блізкіх ад няшчасных выпадкаў!

***Ігар Шаплюк,***
***старшыня Барысаўскай раённай арганізацыі ТРВАД***

# "Бяспека на вадзе вачамі дзяцей"

*Вашай увазе прапануюцца дзве з прац удзельнікаў раённага этапу абласнога прагляду-конкурсу дзіцячай творчасці "Бяспека на вадзе вачамі дзяцей". Ён праводзіўся з лістапада 2016 па сакавік 2017 года.*

## Вечар на рацэ

Спякотныя летнія дзянькі прыйшлі ў горад. Моладзі немагчыма было ўсядзець у кватэрах.

Вечар. Сонейка, якое грэла зямлю цэлы дзень сваімі яркімі промнямі, ужо садзілася за гарызонт. На беразе ракі сядзела кампанія вясёлых маладых людзей.

Утульна гарэла вогнішча, звінелі гукі гітары, на якой іграў Улад. Побач з ім сядзеў Андрэй, абдымаючы за плечы Соню, а Рыта мурлыкала нейкую песню.

Гітарыст адклаў свой інструмент убок і, пляснуўшы ў далоні, сказаў:

– Ну што? Яшчэ па адной?

– Куды табе яшчэ? Ты паглядзі на сябе! – усклікнула Соня.

– Ды ён жа дарослы хлопец! – запярэчыла Рыта. – Што ты яго як малога аберагаеш?

Андрэй, які яшчэ не сказаў ні слова, рашуча ўзяўся за бутэльку:

– Давай, я з табой!

– О, вось гэта зусім іншая справа! – узрадаваўся Улад.

Прайшоў час, і на небе пачалі з'яўляцца першыя зоркі. Здаецца, ужо ўсе песні былі спеты, і сябры засумавалі.

Рыта агледзелася навокал: у кронах дрэў шапацеў цёплы вецер, спяваючы сваю асаблівую мелодыю, рака, спакойная і прыгожая, вабіла да сябе.

– Сябры мае, – неспадзявана загаварыла дзяўчына, – глядзіце, якая ноч! Якая рака! Хадзем у ваду!

– Згодны! – першы да ракі рушыў Улад, за ім не адставаў Андрэй.

Раптам ён пахіснуўся: памуцілася ў галаве.

– Андрэй! – побач з ім узнікла Соня. – Ну куды ты ляціш? Паслухай, ты зусім на нагах не стаіш! Прашу, застанься на беразе! – сэрца ў дзяўчыны было не на месцы, яна адчувала набліжэнне бяды.

– Ды нічога не здарыцца! Я ў парадку! – не слухаючы, Андрэй пайшоў да ракі і сiгануў у ваду.

Ён адплыў далёка ад сяброў, якія плёскаліся недалёка ад берага. І раптам яны пачулі, як Андрэй спалохана войкнуў, а калі паглядзелі ў яго бок, убачылі: сціхнуўшы, ён знік пад вадой.

Соня, якая ўвесь час стаяла на беразе і трывожна сачыла за каханым, імгненна кінулася да сваёй сумкі. Надзеі на сяброў не было ніякай, сама яна плаваць не ўмела, а каштоўныя хвіліны ўцякалі як пясок скрозь пальцы. Ледзь трымаючы тэлефон у руцэ, дзяўчына набрала нумар ратавальнікаў.

***

Цемра перад вачыма Андрэя пачала расступацца. Ён не разумеў, дзе ён і чаму яго сябры так спалохана глядзяць на яго, а Соня трымае яго за руку, седзячы побач з ім. Хлопец толькі памятаў, як глытнуў вады, а дыхаць было немагчыма.

– Як нам пашанцавала, што цябе паспелі ўратаваць! – са слязамі на вачах казала Соня.

– Абяцай, што ніколі-ніколі не будзеш больш піць! І не будзеш больш так рызыкаваць сваім жыццём!

Дзяўчына расплакалася, а Андрэй з жахам зразумеў: ён амаль не развітаўся з жыццём гэтым вечарам.

А сапраўды! Колькі такіх здарэнняў, колькі дарэмных ахвяр можна было б пазбегнуць, калі толькі спыніцца на хвіліну і паслухаць голас розуму. Яму, Андрэю, пашанцавала, і было сорамна за свае паводзіны, за тое, што не паслухаў Соню. Колькі страху яна нацярпелася ў гэты час! Хлопец вырашыў для сябе назаўжды: ён больш ні кропелькі ў рот не возьме.

***Кацярына Кумагерчык, Алена Календа, 11 "Б" клас, СШ №2***

***<u>Пручкоўскі Ягор,</u>***
***средня школа №22.***

## *Споведзь выратавальніка*

*Стаю на варце я ўдзень,*
*Няма спакою і ўначы:*
*Над кімсьці лёг няшчасця цень,*
*Імкнуся ўсім дапамагчы.*
*Хто трапіў у біду па волі лёсу,*
*Хто – па неразумнасці сваёй,*
*Хто трапіў у падман рачнога плёсу,*
*Другі не "дружыць" з галавой...,*
*Усіх аднолькава ратую,*
*Бо кожны для мяне ёсць Чалавек.*
*Таму выратавальнікам працую,*
*Што гуманістамі слылі спрадвек.*

# Да 80-годдзя Леаніда Рашкоўскага

*Мы працягваем друкаваць старонкі з дзённіка Леаніда Рашкоўскага, які прадстаўлены да друку Барысаўскім аб'яднаным музеем і захоўваецца ў яго фондах. Пачатак гл. у №1-5(214-218) за 2017 год.*

## 8 траўня 1961 г. (панядзелак)

Учора вечарам да мяне прыйшоў Юрка В., а трошкі пазней Зойка і Клаўка, каб друкаваць карткі. Юрка прынёс ад Мішы Ф. павелічальнік, а потым сам Міша прынёс аб'ектыў і даў гіпасульфіту. Спачатку праяўлялі ў двух бачках дзве плёнкі. І тут не абышлося без прыгодаў. Потым пайшоў у кладоўку, каб зарадзіць у бачок шматпакутную плёнку. Але бацька, ці яму што трэба было, ці то з дапытлівасці раптам увайшоў і ўключыў святло. Не ведаю, якім чынам амаль уся плёнка захавалася. А потым да чатырох гадзін ночы друкавалі карткі з раздзяленнем працы: я павялічваў, а Юра боўтаўся ў кюветах з праяўляльнікам і замацавальнікам. На гэты раз здымкі атрымаліся лепей, а на плёнцы ёсць досыць добрыя кадры.

## 10 траўня 1961 г. (серада)

Прыйшлося трошкі дапісваць за 8 траўня, таму што запіс быў перарваны на паўслове. 8 траўня зайшла Валя з даручэннем напісаць словы да песні для інтэрнацкай самадзейнасці. Валя мне паведаміла, што 7 траўня бачыла на танцах Генку Т. Ён быў п'яны ў дым. Цалаваў Воўку і Валі рукі і віншаваў са шлюбам, балбочачы нейкі да дзіўнага доўгі маналог пра чалавечае шчасце. Восьмага вечарам Генка нарэшце явіўся да мяне. Выгляд у яго быў не вельмі ці то ад дрэннага здароўя, ці то ад беспрасветнага п'янства. Шмат пагутарыць нам не атрымалася, таму што не да месца прыйшоў Юрка В. і ў хуткім часе сабраўся цэлы натоўп тэлегледачоў. Але зразумела, што слухаць Г. вельмі і вельмі цяжка. Інакш хлопцу не далі б двухмесячны адпачынак праз палову года. Учора Г. не прыходзіў, хоць і абяцаў. Але былі Аркашка П. і Воўка. А. як і ў мінулы раз сцвярджаў, што ніякіх асаблівых цяжкасцей Г. на службе не мае.

Учора ўпершыню па тэлевізары рабілі пробныя перадачы з Прагі і Рыгі. Бачнасць выдатная.

Сёння Н.І. мусіць выклікаць па акушэрстве, але чытаць няма жадання. На практыку сёння не паехаў – добрага па трошку.

12 траўня дамовіўся з Генкам глядзець "Серанаду сонечнай даліны". Трэба "облочить" яго, калі будзе надвор'е ў нядзелю паехаць у лес. Магчыма, прыедзе Кліман. Дарэчы, я ўчора даведаўся, што на шчасце ў яе была дабраякасная пухліна.

## 14 траўня 1961 г. (нядзеля)

Учора да мяне прыйшлі хлопцы: Генка, Кліман, Аркашка і Воўка. Глядзелі па тэлевізары гульню "Беларусі" і "Кайрат". Як і варта было чакаць, менчукі прайгралі (0:1), а разам з імі прайграў і Кліман, які паспрачаўся з Гошай на бутэльку каньяку.

Потым усе глядзелі ў клубе сляпых "Сэрэнаду сонечнай даліны" з удзелам Соні Хені. Цудная музыка. Цудоўны адпачынак. На адваротным шляху доўга і змрочна лавілі таксі. Нарэшце пасля паўтарагадзінных спробаў на дарозе Казе, які быў у стане эйфарыі, усё ж атрымалася спыніць нейкую "паветку", у якую мы набіліся, як селядцы ў бочцы. Потым усе разбрыліся, а я з Казем пайшоў да нас у дом. Да 11 гадзін ён мяне "хаваў" усялякімі гісторыямі са свайго жыцця і з жыццяў непрыяцеляў. Нарэшце, з дапамогаю, дакладней, пры садзеянні бацькі мне атрымалася развітацца з ім. Ён яўна разлічваў, што я пастаўлю на стол выпіць і быў расчараваны канцоўкай.

Сёння напісаў ліст С. у адказ на атрыманы ад яе ў суботу. Атрымалася вельмі рэзка, калі не груба. Але інакш я не мог. Мяне ўз'юшылі яе празрыстыя намёкі і здагадкі, якія, дарэчы, не маюць ніякай глебы.

Відавочна, што на гэтым наша перапіска скончылася. Калі так, то вельмі шкада. Але што рабіць?!

## 17 траўня 1961 г. (серада)

Учора напісаў і адправіў цэлых тры лісты: А.Н.Турунхаджаеву, Давыду Шраеру і Райцы.

Апошнія 2-3 дні стаіць дрэннае надвор'е, і гэта адбіваецца на настроі. З нядзелі недзе знік Генка. Адно з двух, або п'янствуе, або з'ехаў у Менск. Трэба будзе яму патэлефанаваць.

Сёння пачынаецца практыка. Не ведаю, калі лепей класціся ў аддзяленне. Учора Беразоўская спытала мяне пра гэта, і я не рашыўся назваць пэўны дзень. Але Мэры Веніямінаўна сказала, што яна вызваліла для мяне месца і што яна мяне не падганяць. Але баюся, што мне самому прыдзецца паспяшацца.

## 18 траўня 1961 г. (чацвер)

Стала кепска. Сну мяшаюць начныя ваяжы і дым ад цыгарэт бацькі, які з трох ночы чамусьці згубіў жаданне спаць і мяшаў іншым.

Настрой зноў дрэнны. Магчыма, гэтаму спрыяе бяссонніца. Але хутчэй за ўсё не. Мне проста нельга быць адзін на адзін са сваімі думкамі. А я зараз цэлы дзень адзін, як пень. Нуда адская і настрой адпаведна. Вырашыў сёння легчы ў нервовае. Усё ж там заўсёды ёсць людзі і таму не так сумна. Усё ж перыядычна будуць прыходзіць хлопцы. Не ведаю, што рабіць з гэтым сшыткам. Пакінуць дома – не змагу рабіць запісы; узяць з сабою – не хачу, каб акрамя мяне хтосьці чытаў гэту брыдоту. Што ж рабіць? Пэўна, усё ж вазьму з сабою, так будзе лепей.

А зараз трэба скабліць сваю рыжую бараду, бо хуткім часам у дарогу. І наогул у мяне яшчэ нічога не гатова.

## 20 траўня 1961 г. (субота)

Учора, як, між іншым, і сёння на практыку не ездзіў. Быў у медвучылішчы. Атрымаў стыпендыю і надрукаваныя на машынцы пытанні па дзіцячых. Здаецца, мне б раздабыць і білеты, але неяк нязручна.

Потым ездзіў з Леанідам В. у лякарню. Бачыў нашых дзяўчат. Яны распавялі, што Влерка К. ляжыць у хірургіі. На якім жа фронце так пацярпеў бедалага? Зрэшты ад яго штосьці ў такім родзе даўно варта было чакаць. Але ці было аб кім меркаваць.

Прыкладна ў пяць гадзін паехалі ў Жодзіна. Я разлічваў набыць штосьці на ногі. Прыехалі яшчэ да закрыцця крамаў. У краме былі досыць прыстойныя сандалеты. Але мне не пашанцiла: 42 памер аказаўся малым, а 44 – вялікім. Сорак трэцяга, на жаль, не было. Як шкада. Мне штосьці неабходна лёгкае з абутку. Мне не пашанцавала, затое жанчыны, прастаяўшы каля гадзіны ў чарзе, набылі тое-сёе з правізіі.

Дома зноў вячэрні сум... Хутчэй б ужо панядзелак, і я са спакойным сумленнем змяню свой дом на іншы прыстанак.

***(Працяг будзе)***
***Леанід Рашкоўскі***

# Крыжаванка

### *складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – пляж у Барысаве; 2 – вуліца ў Барысаве; 3 – вуліца ў Барысаве; 4 – вёска на Барысаўшчыне; 5 – тутэйшы ўзорны фальклорны гурт; 6 – вуліца ў Барысаве; 7 – генерал-лейтэнант, чый лёс звязаны з Барысавам; 8 – былы кінатэатр; 9 – вуліца ў Барысаве; 10 – адна з гістарычных назваў вуліцы Арджанікідзэ ў Барысаве; 11 – вёска на Барысаўшчыне; 12 – тутэйшы заслужаны аматарскі калектыў; 13 – вёска на Барысаўшчыне; 14 – плошча ў Барысаве; 15 – тутэйшы мастак.



**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў "ГБ" №5(218): 1 – Зембін; 2 – Чапаева; 3 – Бярэзіна; 4 – Рыжы; 5 – Рашкоўскі; 6 – Багданаўка; 7 – Пятроў; 8 – Чалоўскай; 9 – Майсееўшчына; 10 – Радзіма; 11 – Крычына; 12 – Прыяміна; 13 – Чырвонасцяжная, 14 – Вайнрубы, 15 – Харык.

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэдакцыйная рада:
**Белы Іван Юр'евіч,**
**Мацельскі Міхась Альфрэдавіч** (заснавальнік, рэдактар і выдавец),
**Пучыла Міхась Канстаніцінавіч,**
**Шміт Тацццяна Георгіеўна** (нам. рэдактара).

Тэл/факс **8(0177)75-32-77,**
Тэл. **8(0177)93-56-86,**
**8(029)615-32-77 (Velcom),**
**8(033)632-41-98 (МТС).**
e-mail: **gomanbar@tut.by**
Юрыдычны адрас: г. Барысаў, б-р Кампрова, 22-66.

**Наклад 299 асобнікаў**

**Падпісана ў друк**
**14.00 30.05.2017 г.**

**Замова № 3098**
**Друкарня імя 1-га Мая**
**г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33.**
Газета надрукавана з гатовых дыяпазітываў заказчыка.

ISSN 2074-0573




***Адрас для пісьмаў:***
***а/с 43, Барысаў-1,***
***222511, Беларусь***